PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 14 (2134) Год XLII Беласток 6 красавіка 1997 г. Цана 1 зл.



*Сцэна са спектакля „Крывавая Мэры" Дзмітрыя Байко.*

**Міжнародны тыдзень тэатра ў Беластоку**

## Спатканне сяброў

Яшчэ крыху — і магла б стацца катастрофа. V Міжнародны фестываль тэатра ў Беластоку мог не адбыцца па надта празаічнай прычыне: недахопу грошай.

Усё вісела на валаску. Хаця былі ўжо некаторыя пастаянныя спонсары, невядома было, колькі будзе грошай і каго можна будзе за гэтыя грошы запрасіць.

Дыэктар тэатра імя А. Вянгеркі Анджэй Якімец змагаўся за тое, каб фестываль, які меў быць цудоўны, юбілейны, прынамсі адбыўся. Не мог, аднак, рызыкаваць, запрашаючы шматлікія тэатры з заморскіх краін, адно падарожжа якіх паглынула б значную частку сабраных грошай.

Амаль у апошні момант беластоцкі ваявода Анджэй Гаеўскі выдзеліў для патрэб фестывалю 150 млн. старых злотых, а зараз жа за ім Міністэрства культуры дало яшчэ больш. Хаця дырэктар А. Якімец ужо свядома адмовіўся ад запрашэння некаторых тэатраў, дык можна было разлічваць на верных сяброў, якія цярпліва чакалі рашэння ваяводы разам з беластачанамі: Акадэмічны тэатр імя Я. Купалы з Мінска, Рускі драматычны тэатр з Вільні, Тэатр імя Ст. Віткевіча з Закапанага, „Dybuk Teater" з Нарвегіі, а таксама і на амерыканскую танцавальную групу „As iron sharpens iron" ды ўкраінскі тэатр „Белы клоун" з Кіева. І такім чынам, з юбілейнага фестывалю атрымалася, як сказаў дырэктар А. Якімец, спатканне сяброў.

Думка аб фестывалі ўзнікла тады, калі пачалося супрацоўніцтва беластоцкага тэатра з мінскім тэатрам імя Янкі Купалы. Так, менавіта ўсё пачалося ад гэтага супрацоўніцтва. А цяпер меў святкавацца першы — хаця і невялікі — юбілей, пяцігоддзе фестывалю.

Ад 20-га да 27-га сакавіка госці давалі прадстаўленні на вялікай і малой сцэнах, а таксама ў сцэнічнай „кішэні" беластоцкага драматычнага тэатра. Большасць з іх ужо выступала ў нашым тэатры раней. Яны знаёмы з беластачанамі і ведаюць, што сюды трэба прывозіць амбітны, сучасны рэпертуар.

Такія былі спектаклі тэатра імя Янкі Купалы. Спачатку на малой сцэне была паказана п'еса Дзмітрыя Байко „Крывавая Мэры" (рэжысёр — Аляксандр Гарцуеў), а пасля на вялікай сцэне — п'еса Фрыдрыха Дзюрэнмата „Ромул Вялікі" (рэжысёр — Валерый Раеўскі).

Першы спектакль — з пагранічча тэатра абсурду. Гаворыць ён аб зменных пачуццях чалавека, калі вялікае каханне неспадзявана пераражаецца ў холад і абыякавасць, а нават нянавісць. Чаму так дзеецца і чаму пачуцці часамі вяртаюцца? Бо чалавек не можа быць адзінокі. Цудоўная ігра З. Белахвосцік, М. Кірычэнкі і іншых акцёраў! Цудоўны спектакль.

Што датычыць другога спектакля, дык хаця аўтарам п'есы з'яўляецца швейцарац Фрыдрых Дзюрэнмат, дык надзвычай надзённая яна па сваёй ідэі і ў нашых, як кажуць, ваколіцах. Ромул Вялікі — апошні ўладар Рыма — бачыць, як распадаецца Рымская імперыя, і кпіць з тых, што яшчэ праслаўляюць яе вялікасць. Калі няма інтэлектуальных патрэб, калі этычныя нормы нічога не значаць, лёгка прышчапіць людзям варожасць, нязгоду. Спектакль намякае на нараду „тройкі" ў Белавежскай пушчы.

Амерыканскі тэатр танца паказаў нам сучасны танец. Шмат тут экспрэсіі, пачуццяў — і боязі, і слабасці, і сілы, і даверлівасці. Асабліва цікавы момант, калі жанчына носіць на сабе мужчыну — на вока, волата — а слабога і залежнага ад яе, як дзіця.

Што датычыць яўрэйскага тэатра з Осла, дык ужо ён выступаў у Беластоку другі раз. Спявачка Бэнтэ Каган на вялікай сцэне выступіла ўпершыню з новай праграмай менавіта ў Беластоку 21 сакавіка, а прэм'ера мела адбыцца 26 сакавіка ў Лондане.

Як і ў мінулым годзе, вялікае зацікаўленне выклікаў тэатр імя Ст. Віткевіча з Закапанага. Сёлета яны паказалі п'есу Артура Мілера „Салемскія ведзьмаркі", ідэі якой, як высветлілася, у нас не менш актуальныя, чым на Захадзе. Калі хочаш жыць — не можаш гаварыць праўду.

Тэатр „Белы клоун" з Кіева паказаў цікавае прадстаўленне „Happening" у сцэнічнай „кішэні", поўнае музыкі і танцаў. Гледачоў чамусьці было няшмат. Мо таму, што амаль адначасова купалаўцы на малой сцэне ставілі „Крывавую Мэры".

З Літвы прыехаў сёлета з двума прадстаўленнямі толькі Рускі драматычны тэатр. Літоўскі тэатр, бадай, дырэктар А. Якімец ужо не рызыкнуў запрашаць: калісьці на яго спектаклі былі адно вучні з Пунска. Добра, што фестываль усё ж адбыўся. На некаторых спектаклях не хапала месц.

**Ада Чачуга**

## Глабальная вёска

У мінулым годзе ў красавіку тона пшаніцы каштавала 640 новых злотаў. У жніво цана панізілася — нармальная з'ява — да 600 злотаў. Гаспадары адразу з поля збожжа не прадавалі, чакаючы звычайнага зімовага павышэння цаны. Гэты год, аднак, аказаўся нетыповым. Збожжа не толькі што зімою не падаражэла, але нават патанела. На прадвесні тона пшаніцы каштуе найбольш 560 злотаў. І то няма дзе яе прадаць, бо склады поўныя. Прычыну такой сітуацыі тлумачыць дырэктар элеватара Агенцтва сельскагаспадарчага рынку ў Бельску, Рыгор Суліма:

— Падчас жніва ніздзе ў Еўропе збожжа не было такое дарагое, як у нас. Нягледзячы на гэта, удалося нам купіць на ўсёй усходняй тэрыторыі Беластоцкага і частцы Бела-падляшскага ваяводства, замест спадзяваных дваццаці тысяч тон, усяго чатыры тысячы. Восенню не было ніякіх запасаў. Агенцтва сельскагаспадарчага рынку, па загаду ўрада, купіла збожжа за мяжою. У нас апынулася дваццаць сем тысяч тон імпартнай пшаніцы.

У бельскім элеватары неўзабаве будзе крыху месца, бо пасылаюць адсюль шэсць тысяч тон пшаніцы ў Балгарыю, дапамогу якой у час нядаўняга візіту прэзідэнта Петыра Стаянава паабяцаў наш прэм'ер Уладзімеж Цімашэвіч. Магчыма, гаспадары змогуць прадаць тут частку свайго запасу, але напэўна не дастануць такіх грошай, якія ім ахвяроўвалі летась. Ды і ў элеватары зацікаўленыя толькі некаторымі гатункамі пшаніцы, выключна спажывецкімі, а не на камбікорм. Няма попыту на жыта, якое на базары каштуе да 450 злотаў (гэта ўжо вельмі добра!), ні на авёс, хаця ён яшчэ таннейшы.

Пачынаецца пара веснавой сяўбы. Тым часам не вядома, як да жніва апражніць свірны. А збожжа ў засеках, паводле спецыялістаў, губляе сваю вартасць ужо пасля трох месяцаў захоўвання.

Хто вінаваты ў стратах гаспадароў? Купцы, якія восенню не заплацілі за збожжа такіх грошай, якіх земляробы чакалі? Заграніца, якая вырошчвае танней? Урад Цімашэвіча, які загадаў купляць зерне за мяжою? Ці самі сяляне, якія не прадбачылі кан'юнктуры на рынку?

Адказ на гэтае пытанне сёлета нічога ўжо не памяняе. Тым не менш, варта зрабіць высновы на будучыню. Асабліва адно павінна стаць ясным: мы не з'яўляемся ніякім самотным востравам. Той хто не ведае, што робіцца ў свеце, хто плануе адно на падставе мінулагодняга ўраджаю ў сваёй вёсцы, або цаны прадукту на рынку гміннага цэнтра, можа потым моцна расчаравацца.

Гэта датычыць не толькі збожжа. Можна паставіць сабе пытанне, чаму апошнімі гадамі гаспадары ніяк не могуць угадаць цаны бульбы? Або, які ўплыў на нашых жывёлаводаў мела нядаўняя вайна з „шалёнымі" брытанскімі каровамі? Каб абмежавацца толькі справамі вёскі. Глабальнае.

**Мікола Ваўранюк**

# Мы прачыталі

*В 1992 г. спецслужбы России разработали программу антибелорусской пропаганды в белорусской прессе. А была эта пропаганда достаточно тонкой, что можно проследить на примере такой передачи, как „Радиофакт". Эта программа была заранее обречена на популярность из-за времени выхода в эфир. И верстались программа таким образом, чтобы внедрить в подсознание людей неприятие белорусскости. Вначале сообщалось, что такой-то дом престарелых нуждается в финансах, столько-то пенсионеров живут на грани черты бедности, в детских садах холодно. И тут же, следом, шла информация о миллионах рублей (на самом деле девальвированных), выделеных на оборудование школ с белорусским языком обучения. А затем прозвучала подрывная и откровенно безвкусная песенька „Пад сімвалам «Пагоні» кахай мяне, кахай, любі мяне, любі".*

*Во время избирательной президентской компании в 1994 г. на Лукашенко работали несколько десятков российских офицеров КГБ. Именно они и разработывали некоторые лукашенковские акции, прибавившие ему скандальной известности и голосов. На его сторону перешли сотрудники отдела, занимающегося фабрикацией и распространением слухов. Возможности этого отдела были немалые.*

*Народная воля, н-р 42*

Загаловак артыкула: „Как они продавали страну".

* * *

*Trzy czwarte uczniów w szkołach Brandenburgii oficjalnie przyznaje się, że ma poglądy rasistowskie. Już nie neonaziści, czy ekstremiści, ale właściwie całe społeczeństwo, bez żenady mówi, że bez cudzoziemców życie byłoby lepsze. We wschodnich Niemczech źli są nie tylko cudzoziemcy ze wschodu, lecz także specjaliści z Unii Europejskiej, Żydzi, Niemcy z zachodu, bezdomni, homoseksualiści — słowem wszyscy, którzy są jakoś inni. Niebezpiecznym jest nawet mówienie lub czytanie gazety w języku angielskim. Gadanie o socjalistycznej moralności, o internacjonalizmie okazało się pustym frazesem, konserwowało jedynie nacjonalizm.*

*Gazeta Wyborcza, nr 62*

* * *

*На Мінскім трактарным заводзе было затрымана ў 1996 г. 525 раскрадальнікаў прадукцыі.*

*Голас Радзімы, н-р 10*

Больш цікава было б прачытаць, колькі трактароў раскрадальнікам удалося вынесці праз завадскі плот.

* * *

*Jeżeli nic się nie zmieni, będziemy może i w NATO, i w Unii, ale mieszkając u teściów. Budownictwo w ostatnich latach uległo załamaniu.*

*Dom — Gazeta, nr 1*

Цесць таксама будзе ў НАТО.

* * *

*Od 1 lipca składki na ZUS będzie się płacić od wynagrodzeń dotychczas nie obciążonych. Udział składki na emeryturę w płacy w Niemczech wynosi 17,7 proc., Francji — 14,8 proc., Belgii — 16,4 proc. i w Polsce — 48,2 proc. Ze względu na składki socjalne koszt pracy w Polsce jest najwyższy wśród krajów Europy Środkowej. Składają się nań oprócz płacy pracownika netto podatki bezpośrednie od osób fizycznych — od 20 do 44 proc., podatki pośrednie 10-12 proc., składka na ZUS — 45 proc., składka na Fundusz Pracy — 3 proc., składka na Fundusz Gwarantowanych Świadczeń Pracowniczych — 0,2 proc. W sumie na podatki i różne świadczenia pracownik oddaje prawie połowę swoich zarobków. Zważywszy, że rolnicy płacą zaledwie kilka procent na swoje przyszłe emerytury, a niektóre działy gospodarki praktycznie od lat nie płacą składek ZUS — ogromna część społeczeństwa utrzymywana jest z budżetu, czyli z kieszeni tych, którzy płacą coraz wyższe podatki.*

*Polityka, nr 11*

* * *

*Mężczyźni chętnie oddają pensję żonie i oczekują, że będzie ona dobrze nią gospodarować.*

*Świat Kobiety, nr 6*

Ідыёты?!

* * *

*50 000 nowych złotych może otrzymać 15-letnia, początkująca modelka za udział w filmie reklamowym. Agencje modelek nie mówią o szczegółach kontraktów, lecz stwierdzają, że możliwości zarabiania wielkich pieniędzy dla nastolatek są ogromne.*

*Machina, nr 3*

* * *

*Już niebawem pojawić się ma na rynku nowy gatunek oleju napędowego. „Paliwo rolnicze" lub „agrodiesel", bo taka ma być jego handlowa nazwa, będzie tańszy od tradycyjnego oleju napędowego, choć jakościowo identyczny. Korzystanie z paliwa rolniczego przez właścicieli samochodów może być jednak niebezpieczne. Agrodiesel nie jest efektem pracy chemików, lecz parlamentarzystów, którzy uchwalili ustawę o paliwie rolniczym, tańszym od nierolniczego o 25%. Ustawa przewiduje, że w przypadku korzystania z oleju rolniczego w samochodach właścicielowi grozi konfiskata auta i dwuletni pobyt w więzieniu. Nie ulega wątpliwości, że na tzw. paliwie rolniczym skorzystają najbardziej aferzyści, najmniej rolnicy.*

*Polityka, nr 11*

# З мінулага тыдня

**Нацыянальная асамблея** — супольнае пасяджэнне Сейма і Сената — ухваліла **Канстытуцыю Рэчы Паспалітай**, над праектам якой паслы і сенатары працавалі тры гады. За яе прынялі галасаваў 461 парламентарый, супраць — 31, а ўстрымаліся ад галасавання 5 дэпутатаў. Ва ўступе да асноўнага закона прымяняецца паняцце Польскі Народ і змешчана спасылка на Бога. Канстытуцыя сцвярджае, што Польшча з'яўляецца супольным дабром усіх грамадзян, а гміна мае быць асноўнай адзінкай адміністрацыйнага дзялення. Закон гарантуе кожнаму чалавеку юрыдычную ахову жыцця, бясплатны доступ да аховы здароўя і публічнага школьніцтва, хаця дапускае частковую аплату за навуку ў ВНУ. Згодна новай канстытуцыі грамадзяне атрымаюць магчымасць падаваць канстытуцыйную скаргу, а таксама права на заканадаўчую ініцыятыву, якая будзе прыслугоўваць групе са ста тысяч грамадзян. Асноўны закон прадугледжвае ўвядзенне ў польскую юрыдычную сістэму новага інстытута абаронцы правоў дзіцяці.

**У Любліне** 20 і 21 сакавіка адбыліся аўтарскія сустрэчы паэтэсы **Надзеі Артымовіч** з чытачамі ў Цэнтры культуры і са студэнтамі славянскай філалогіі Універсітэта Марыі Кюры-Складоўскай. Спонсарам сустрэчы „Паэзія як падарожжа да сябе..." была Гарадская ўправа ў Любліне.

**Унія вольнасці** звярнулася да постсалідарніцкіх палітычных груповак з заклікам падтрымаць на рэферэндуме ўхваленую парламентам канстытуцыю. „Гэта будзе канстытуцыя незалежнай Польшчы, — сказаў старшыня парламенцкага клуба УВ **Браніслаў Герэмак**. — З'яўляецца яна актам разумнага кампрамісу паміж рознымі палітычнымі сіламі, якія маюць свае прадстаўніцтва ў парламенце". Тым часам лідэры Руху III Рэчы Паспалітай заклікаюць адкінуць яе на канстытуцыйным рэферэндуме. Паводле іх некаторыя фармулёўкі новага асноўнага закона ствараюць магчымасць абмежавання грамадзянскіх правоў. Адмоўна да новай канстытуцыі ставяцца таксама іншыя пазапарламенцкія групоўкі.

**Беларуская дэлегацыя** ўдзельнічала ў Міжнародным кірмашы будаўнічай індустрыі і інтэр'ераў „Буд-экспа — Вясна '97" у Беластоку. Ініцыятарам паездкі быў Цэнтр падтрымкі прадпрымальніцтва „Цэнтр «XXI стагоддзе»" і Беларускі саюз прадпрымальнікаў. Беларускія прадпрыемствы спадзяюцца знайсці дзелавых партнёраў для экспарту ўласнай прадукцыі, развіцця вытворчай кааперацыі, стварэння сумесных фірмаў. Беларуская дэлегацыя наведала таксама Беластоцкую ўсходнюю біржу, пазнаёмілася з дзейнасцю Усходняга эканамічнага таварыства, створанага для развіцця дзелавога супрацоўніцтва Польшчы з краінамі СНД.

**Управа беластоцкага Рэгіёна „Салідарнасці"** накіравала Генеральнаму консулу Рэспублікі Беларусь у Беластоку пратэстацыйную петыцыю ў сувязі з парушэннем свабоды дзейнасці прафсаюзаў у Беларусі. „Салідарнасць" лічыць, што беларускі ўрад парушае рашэнні Міжнароднай Арганізацыі Працы ў справах прафсаюзных свабод, а таксама права на вядзенне дзейнасці Свабодным прафсаюзам Беларусі, асабліва яго абласной структурай у Магілёве, якая мясцовымі ўладамі не дапускаецца да перагавораў з работадаўцамі наконт сацыяльна-эканамічных пытанняў працоўных калектываў. „Такое дзеянне ўлад Рэспублікі Беларусь супярэчыць не толькі законам Беларусі, але таксама парушае паўсюдна абавязваючыя міжнародныя юрыдычныя акты і такога стаўлення ўлад нельга абысці маўчаннем". — напісалі беластоцкія салідарнікі.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Чаму ў „Ніве" не можам змяшчаць праграмы тэлебачання — адказ рэдакцыі.**
- **Грыша Мароз пра свае чаканне вясны.**
- **Аб чым гавораць людзі ў Арлянскім ГСе — прыслухоўваўся Міхал Мінцэвіч.**

# Весткі з Беларусі

**Дэманстрацыі ў Менску**

У 79-ыя ўгодкі абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў Менску адбылася патрыятычная дэманстрацыя, якую арганізавалі БНФ і іншыя апазіцыйныя арганізацыі. У несанкцыянаваным шэсці пад бел-чырвона-белымі сцягамі ўдзельнічала каля дзесяці тысяч прыхільнікаў незалежнасці Беларусі. Шмат разоў міліцыя і АМАП прымянілі да дэманстрантаў дубінкі і слёзатачывы газ, а тыя ў сваю чаргу кідалі ў іх камякамі змёрзлага снегу і абзывалі фашыстамі. Былі арыштаваны семдзесят чалавек, у тым ліку першы сакратар пасольства ЗША Серж Аляксандраў (яго абвінавацілі ў супрацоўніцтве з ЦРУ і выдварылі з Беларусі). У той самы час каля двух тысяч прыхільнікаў Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі правялі дазволеную ўладамі дэманстрацыю. Айчынныя жырыноўцы выказалі поўную падтрымку прэзідэнцкім планам інтэграцыі Беларусі з Расеяй.

**Аднаўленне мытняў**

Віцэ-прэм'ер і міністр унутраных спраў Расеі Анатоль Кулікоў наведаў Менск, дзе правёў перамовы наконт увядзення мытнага кантролю на расейска-беларускай мяжы. Кулікоў абмяркоўваў механізм аднаўлення на гэтым участку мяжы кантрольных пастоў, якія былі ліквідаваны ў 1995 годзе.

**Рыхтуецца новая арганізацыя**

Рух па стварэнні Беларускага патрыятычнага саюза моладзі разгарнуўся ва ўсёй краіне. Напрыклад, на Віцебшчыне ўтвораны абласны арганізацыйны камітэт, які ўзначаліў адзін з ініцыятараў гэтага руху, прэзідэнт Рэспубліканскай асацыяцыі міжнародных маладзёжных абменаў і турызму Міхаіл Орда. У працоўных калектывах створаны ініцыятыўныя групы, якія вылучаюць дэлегатаў на Устаноўчы з'езд БПСМ, які адбудзецца 30 красавіка ў Менску.

**БСМ не хоча ў БПСМ**

У маладзёжных колах актыўна абмяркоўваецца рашэнне Беларускага саюза моладзі не ўваходзіць у аргкамітэт па стварэнні новай маладзёжнай арганізацыі — Беларускага патрыятычнага саюза моладзі. Лідэр БСМ Сяргей Даронін заявіў, што ў рэспубліцы існуе ўжо моцная маладзёжная арганізацыя — Беларускі саюз моладзі. Калі БСМ, які заўсёды быў стабілізатарам паміж правымі і левымі сіламі ў маладзёжным руху знікне, сітуацыя значна абвострыцца.

**Перарэгістрацыя выдавецтваў**

Дзяржаўны камітэт па друку распрацоўвае змяненні і дапаўненні палажэння аб парадку выдачы спецыяльных дазволаў-ліцэнзій на ажыццяўленне выдавецкай дзейнасці і на набыццё паліграфічнага абсталявання. У сувязі з гэтым часова прыпыняецца выдача ліцэнзій. Пасля зацвярджэння новых палажэнняў у маі ў Дзяржкамдруку пачнецца перарэгістрацыя суб'ектаў гаспадарання, якія займаюцца выдавецкай і паліграфічнай дзейнасцю.

**Беларускія дні ў Польшчы**

Да традыцыйнага Міжнароднага кніжнага кірмашу, які пройдзе ў маі ў Варшаве, рыхтуюцца выдаўцы Беларусі. Удзел у ім будзе адметны яшчэ і тым, што якраз у гэтыя дні ў Польшчы будуць праходзіць Дні беларускай культуры. Сваю новую прадукцыю прадставяць усе дзяржаўныя і недзяржаўныя выдавецтвы. Такім чынам у экспазіцыі налічваецца звыш двухсот назваў кніг. Кнігавыдаўцы спадзяюцца на пашырэнне супрацоўніцтва з замежнымі калегамі, у выніку якога павялічыцца асартымент выданняў і беларуская кніга будзе дастойна прадстаўлена за рубяжом. Асабліва цесныя кантакты ўсталяваліся паміж кнігараспаўсюджвальнікамі Беларусі і Польшчы. Так у мінулым годзе выдавецтву „Народная асвета" ад Фонду польскай культуры вядомая актрыса Беата Тышкевіч уручыла прыз за распаўсюджванне польскай літаратуры.

**Габеленшчыца ў Парыжы**

Выставы мастачкі-габеленшчыцы Вольгі Дзёмкінай прайшлі ў славутай Парыжскай дыпламатычнай акадэміі і ў беларускім пасольстве. Сталіца сусветнай культуры прыняла мастачку вельмі цёпла, хоць здзівіць парыжан нечым своеасаблівым вельмі цяжка, асабліва ўлічваючы тое, што Францыя з'яўляецца адной з пачынальніц майстэрства габелена.

# Як у бізнесе!

Выязджаючы з Кляшчэляў у напрамку Сямятыч, зараз пры скрыжаванні дарог у Чаромху стаяць два помнікі даўнейшай камуны — апусцелы будынак каўбаснага завода і яшчэ дыхаючая пякарня. Гэтыя ўстановы калісьці належалі кляшчэлеўскаму ГСу. Зараз з'яўляюцца яны ўласнасцю прыватнага прадпрымальніка.

Калі ў 1995 годзе кіраўнік працэдуры банкруцтва кляшчэлеўскага ГСу аб'явіў аўкцыён на продаж гэтых аб'ектаў, Валянцін Шчука лічыўся членам суполкі, якая займалася скупкай збожжа ў кляшчэлеўскім элеватары.

— Я даўно меркаваў заняцца бізнесам, — гаворыць ён, — з першых дзён, як толькі пачынала развівацца ў нашай краіне рыначная эканоміка. Ды не ведаў ад чаго пачаць. Планы ў мяне не былі вялікія. І калі я даведаўся, што на аўкцыён ставіцца маёмасць кляшчэлеўскага ГСу, зразумеў, што надышоў час пачаць дзейнічаць. Узяў я банкаўскі крэдыт — мільярд трыста пяцьдзесят мільёнаў старых злотых, купіў каўбасны цэх, пякарню, склады (збожжавы, угнаенняў і будаўнічых матэрыялаў), пункт скупкі жывёл і будынак крамы, у якой даўней прадаваліся сельскагаспадарчыя прылады, а таксама склад паліва. Закупленая мною маёмасць змяшчаецца на тэрыторыі 3,70 га.

Аўкцыён аб'ектаў праводзілі двойчы. За першым разам не было ахвотных на пакупку. У другім я перамог сваіх канкурэнтаў.

Пасля афармлення неабходных дакументаў трэба было ўзяцца за працу. Новы ўладальнік забяспечвае ўсе аб'екты перад далейшым знішчэннем і грабяжом.

Калі пайшла па Кляшчэлях гаворка, што я купіў каўбасны цэх, — прадаўжае сп. Шчука, — знайшліся такія, што пачалі грабіць маю маёмасць. Укралі мне ўсе вентылятары і рухавікі. А гэта немала каштуе.

— Як думаеце выкарыстаць будынак каўбаснага цэха? — пытаю прадпрымальніка.

— Аб прадукцыі мясных вырабаў няма тут гаворкі. Будынак патрабуе капітальнага рамонту. А ў мяне на гэта часу не хапае і дадатковыя кошты атрымаюцца. Мне пакуль не да гэтага. Памяшканнем каўбаснага цэха цікавіліся італьянцы. Хацелі змясціць тут прадпрыемства па вытворчасці запасных частак для заходніх аўтамабіляў. Калі паглядзелі ўсё на месцы, адказаліся. Ім патрэбны аб'ект, у якім можна адразу пачаць прадукцыю.

Не пашанцавала таксама маладому бізнесмену ўладзіць справу складоў паліва. Замала было кліентаў на вугаль. А і ў наваколлі вугаль таннейшы, чым быў бы ў Кляшчэлях. У Гайнаўцы ці Бельску-Падляшскім суполкі патрабуюць вялікія колькасці вугалю. Карыстаюцца немалымі ільготамі, таму і танней прадаюць. Малыя прыватныя прадпрымальнікі тут не лічацца. Так ужо бывае ў рынычнай эканоміцы.

У даўнейшай краме „На горцы", змяшчаецца зараз бар. Новы ўладальнік адступіў брату памяшканне. Але і тут пакуль што бізнес не клеіцца. Наведвальнікаў мала. Калі адкрывалі бар, дык лічылі, што „рускія" сюды будуць заходзіць. А яны шашою шпараць проста ў Бельск, Гайнаўку ці Сямятычы, каб хутчэй прадаць свой „тавар", зрабіць справункі ў нашых крамах ці на кірмашах і вяртацца дамоў. А піва і ў хаце яны пап'юць!

Толькі два аб'екты дагэтуль удалося ўпарадкаваць: збожжавы склад і пякарню.

У мінулым годзе В. Шчука заключыў дагавор са збожжавымі складамі ў Бельску-Падляшскім і правадзіў скупку збожжа на патрэбы Агенцтва сельскагаспадарчага рынку ў Сувалках. Скупку праводзілі толькі восенню. Пасля спынілі. Зараз надалей памяшканні збожжавых складоў пустуюць.

Даўнейшы склад будаўнічых матэрыялаў В. Шчука прадаў суполцы „Эфендзі" з Гайнаўкі, якая зрабіла тут меблевы склад. І таксама з думкай аб „рускіх". У гэтай галіне бізнес пачынае раскручвацца. У хуткім часе пачнецца тут вытворчасць вырабаў з дзерава.

— А як у вас справы з пякарняй? — пытаю свайго суразмоўцу.

— Так як у бізнесе, — адказвае Валянцін Шчука. — Раз горш, раз лепш. Пакуль да ўсяго трэба даплачваць. Як пачынаў вытворчасць у пякарні, з боку гміны атрымаў ільготы. Дзве раты налогаў пагасілі. Зараз за ўсё трэба плаціць. Па загаду санэпідстанцыі я вымушаны быў купіць два новыя аўтамабілі для дастаўкі прадуктаў і „Паланез". І зноў не абышлося без крэдыту. Ільготаў з гміны ўжо не даюць. „Як маеш грошы на новыя аўтамабілі, дык і налог можаш заплаціць", — кажуць. А тут трэба было пякарню атынкаваць звонку і ўнутры ды глазуру палажыць. Але прадукцыя не спыняецца.

— Колькі работнікаў працуе ў вашай фірме?

— На сённяшні дзень — дванаццаць, у тым ліку дзевяць пекараў. Кадры ў мяне добрыя. Людзі маладыя. Ведаюць прафесію, з адукацыяй.

— А як з вытворчасцю? Колькі хлеба выпякаеце ў суткі і якія асартыменты?

— У суткі перарабляем каля 800 кг мукі. З таго атрымоўваецца каля 1300—1500 боханаў хлеба, 1000—1500 булачак і ў меншых колькасцях іншых вырабаў. А пячэм хлеб у двух відах: пултускі і бальтонаўскі. Булачкі звычайныя і салодкія, халы, ражкі і іншыя вырабы.

Пякарня В. Шчукі ў Кляшчэлях абслугоўвае Кляшчэлеўскую, Чаромхаўскую, Дубіцкую і Мілейчыцкую гміны. Мае каля сарака пастаянных пакупнікоў. Гэта невялікія спажыўцы. Купляюць у малых колькасцях. Дагэтуль выкарыстоўваецца толькі трэцяя частка прадукцыйных магчымасцей пякарні. Няма збыту! Многія крамы купляюць у іншых пякарнях. Так што трэба добра глядзець, каб з гэтага бізнесу быў хлеб. Бо інакш прападзеш чалавеча!

Доўга мы гутарылі з Валянцінам Шчукам, кляшчэлеўскім бізнесменам.

— Ведаеце, — кажа прадпрымальнік, — у суткі прыходзіцца ўсяго чатыры-пяць гадзін праспаць, у хаце пабыць. А то ўсё клопаты, праблемы. Ужо не раз думаў адказацца ад таго бізнесу. Каб толькі хто узяў мае даўгі і маёмасць і пачаў далей круціць гэту справу. А з другога боку і шкада таго, што ўжо зрабілася.

— Дык што ж думаеце далей рабіць?

— Перад усім, добраўпарадкаваць дагэтуль нявыкарыстаныя памяшканні маіх складоў і каўбаснага цэха. Планы ўжо ёсць. Трэба толькі іх пусціць у ход. А ці іх асвою, пакажа час.

**Размаўляў**
**Уладзімір Сідарук**

# Прадвесне на перыферыі

Самай брыдкай парой года ў горадзе, а асабліва на перыферыі Беластока, заўсёды з'яўляецца прадвесне. Калі толькі знікае снег з вуліц, на чорнай зямлі вылучаецца ўсё тое, што жыхары палічылі непатрэбным і выкінулі з хатаў. Пры вуліцы Пясковай, што ў квартале Пшэмыслова, ёсць дзве пустуючыя плошчы, якіх уласнікі жывуць недзе за Беластокам. Чаго там цяпер няма — пластмасавыя бутлі, дзіцячыя каляскі, старая вопратка, часткі ад аўтамабіляў, спальная мэбля, згнілая бульба, цыбуля і г.д. Традыцыйна ўжо недзе ў палове мая вырастуць там вялікія лапухі, якія прыхаваюць гэты сметнік. Цяпер краявід вакол шыкарных вілаў напамінае сцэны з нейкага катастрафічнага фільма.

Пры гэтай самай вуліцы знаходзіцца прадуктовая крама, дзе між іншым прадаецца таксама піва. Найбольшыя аматары гэтага напітку спажываюць яго зараз за крамай, дарэчы, наперамен з дэнатуратам. Там таксама проста на сцяну выдаляюць непатрэбныя арганізму запасы вадкасці. Да вышыні метра тынк ужо адпаў са сцяны будынка, вакол якога кожны дзень пабольшваецца куча смецця. Дзеці навакольных багацеяў шмат купляюць усялякіх рэкламаваных у тэлебачанні „чыпсаў", „снікерсаў" і іншых салодкіх далікатэсаў. Прынцыпова упакоўкі з-пад гэтых ласункаў выкідаюць проста на вуліцу. Шматкаляровае смецце ганяе вецер ад плота да плота. Фальгавыя торбачкі часам лётаюць, як калісь шарыкі падчас першамайскай дэманстрацыі.

У школе быццам бы вучаць, як трэба шанаваць натуральнае асяроддзе чалавека. Магчыма, што настаўнікі нешта там і гавораць, дзе павінны трапляць усялякія адпадкі, але на практыцы дзеці бачаць іншыя ўзоры захавання — бацьку, які мяшок смецця выкідае ў лесе, маці, якая ўсялякую гразь і адпадкі ад абеду вылівае на сярэдзіну вуліцы, суседзяў, якія раніцай выпускаюць сабак на вуліцу, каб не прыбіраць свайго панадворка. Гэтая апошняя адукацыя больш пераканаўчая і выгадная малышам. Таму будуць жыць яны так як тата, мама, калегі і суседзі. А ў падручніках хай сабе пішуць што хочуць.

**Васіль Кургановіч**

# Скрыжаванне смерці

Дарога з Орлі ў Шчыты вылучаецца многімі калдобінамі і ямамі, але ехаць па ёй нияк можна. Апошнім часам на брук, які быў мошчаны яшчэ пры немцах, палажылі тонкі слой смалы, у выніку чаго на паверхні ўзніклі мульды. У палове гэтай дарогі застаецца нерамантаваны адрэзак з небяспечным паваротам. Папярэднія гмінныя ўлады, відаць, планавалі выпраміць яго, бо на абочыне высеклі таполі, ад якіх да сённяшняга дня захаваліся глыбокія ямы.

Гэтым крутым і вострым паваротам, з якога шафёры не раз уязджалі на непадалёкія палі, гмінныя чыноўнікі не карыстаюцца, бо ездзяць дарогай на Бельск. Але праз гэты паварот штодзённа праязджаюць многія аўтобусы.

Едучы з напрамку Шчытоў-Дзенцялова набліжаемся да скрыжавання смерці — месца, у якім дарогу перасякае шаша Бельск—Гайнаўка. Аб месцы частых трагедый сведчаць крыжы вакол скрыжавання, якія напамінаюць аб ахвярах аўтамабільных катастроф. Толькі ў 1992 годзе страцілі тут жыццё чатыры асобы.

Хаця дарожнікі выкарчавалі прыдарожныя кусты, аднак шафёры, якія ўязджаюць на рухлівую шашу з перавражным правам пераезду, павінны праяўляць павышаную асцярожнасць.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*




*З левага боку дарогі стаяць крыжы ў памяць загінуўшых у гэтым месцы ў аўтамабільных катастрофах.*

# (Сярэдне) Еўрапейскае выданне

Мой прафесар расказваў аднойчы на семінары гісторыю, відавочна, праўдзівую. Канцлер Адэнаўэр нанёс у 1955 годзе візіт у Маскву. Сустрэў яго ў аэрапорце I сакратар Хрушчоў. Пасля афіцыйнай часткі гаспадар, хочучы паказаць сябе як чалавека кампанейскага, які ўмее весці свабодную гутарку, спытаў: „Які ў вас сёлета ўраджай?” Адэнаўэр здзівіўся пытанню: „Не ведаю, але калі вы гэтым зацікаўлены, я паклічу спецыяліста”.

Гэты анекдот паказвае не толькі стратэгічнае значэнне харчовага пытання ў СССР, але і суцэльнае разыходжанне савецкага і заходнееўрапейскага (амерыканскага) менталітэтаў. Чаму Захад закахаўся ў Гарбачова? Таму, што гэта быў першы шэф Крамля, з якім можна было весці нармальную размову. Ніколі не здарылася яму публічна зняць туфель і валіць ім у стол. Ён гаварыў, дапусцім, у Вашынгтоне і яго там разумелі. Яму нешта казалі і ён таксама іх разумеў.

Я баюся, што нас, беларусаў, з нашым адвечным лямантам і мінімалісцкай прагай *людзьмі звацца* там таксама не зразумелі б.

На фоне вечна адраджэнскае беларускае кніжнае і часопісна-газетнае прадукцыі вылучаецца сярэднееўрапейскі культурны агляд „Фрагмэнты”. Гэты тоўсты журнал, які пачаў выходзіць восенню ў Менску (друкуецца ў Беластоку), будзе зразуметы. *„Фрагмэнты”*, — як напісаў галоўны рэдактар Ігар Бабкоў, — *першы беларускі квартальнік, прысьвечаны мысьленьню ў самых розных „рэалізацыях”, школах, практыках. „Фрагмэнты” — гэта яшчэ й фрагмэнты самых розных жанраў — ад сьціслага акадэмізаванага камэнтару да ідэалягічнай крытыкі, ад аб'ектывуючага аналізу да паэтаваньня над тайніцай Быцьця.*

У „Фрагмэнтах” вядуцца дыскусіі. Мілан Кундэра разважае пра трагедыю Цэнтральнай Еўропы, Ралан Барт — пра смерць аўтара, Вацлаў Гавел — пра чэшскую долю, Маршал Маклюэн — пра сусветную вёску, Ян Станкевіч — пра нашы заданні. Ян Максімюк тлумачыць гамераўскія паралелі трох першых эпізодаў Джойсавага „Уліса”, Валянцін Акудовіч і Сяргей Дубавец задумваюцца, ці наогул ёсць нейкая Сярэдняя Еўропа, а калі ёсць, чаму нас там няма. Валерка Булгакаў прыглядаецца слядам Францішка Багушэвіча, які, хаця жыў на зломе XIX стагоддзя (*гогаляў і гегеляў*), актуальны і сёння — у стагоддзі *ленінаў і ленанаў*.

Пералік аўтараў першых трох нумароў (другі і трэці — падвойны) імпазантны: Мішэль Фуко, Віталь Гамбровіч, Збігнеў Герберт, Умбэрта Эка, Іштван М. Фегер, Антон Адамовіч... і г.д. і т.п. Беларуская праблематыка ў „Фрагмэнтах” упісваецца ў шырэйшы кантэкст. Яшчэ раз Бабкоў: *Няма сэнсу пісаць пра патрэбу беларускай культуры ў такім выданьні. Ёсьць сэнс гэтую патрэбу абуджаць.*

У „Фрагмэнтах” з фрагментаў філасофіі, культуралогіі, літаратуры складзена атракцыйная форма цэласнасці. На дадатак, Ян Максімюк цвердзіць, што пададзена яна на класнай беларускай мове.

**М. В.**

# Выстава пра генерала Булак-Балаховіча

25 сакавіка 1997 года, у 79 гадавіну абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, у Музеі войска ў Беластоку адкрылася выстаўка „Генерал Станіслаў Булак-Балаховіч”. Супадзенне даты адкрыцця з гадавінай абвяшчэння БНР невыпадковае, паколькі ў лістападзе 1920 года ген. Булак-Балаховіч на чале 25-тысячнай арміі аднавіў Беларускую Народную Рэспубліку і сам стаў начальнікам Беларускай дзяржавы. Пасля месяца змаганняў яго падраздзяленні былі разбіты Чырвонай Арміяй і генерал быў вымушаны вярнуцца ў Польшчу.

Асоба генерала Булак-Балаховіча, якой вобраз у беларускай савецкай гістарыяграфіі маляваўся выключна цёмнымі фарбамі, зараз становіцца тэмай свабодных ад ідэалагічнай прадузятасці гістарычных даследаванняў. У іх выніку ў Польшчы з'явілася ўжо біяграфічная кніжка пра генерала аўтарства Марка Цабаноўскага, раздзел у кнізе Алега Латышонка пра беларускія вайсковыя фарміраванні ў 1917-1923 гадах, ды артыкулы ў гістарычных часопісах, у тым ліку ў выдаваемым БГТ паўгодніку „Białoruskie Zeszyty Historyczne”. У Беларусі пра Булак-Балаховіча пакуль што пішуць толькі апазіцыйныя выданні.

Беластоцкая выстаўка арыгінальная тым, што 98 працэнтаў экспанатаў — як сказаў дырэктар Музея войска Кшыштаф Філіпаў — паказваецца ўпершыню. На стэндах змешчана многа здымкаў, якія адлюстроўваюць увесь жыццёвы шлях Станіслава Булак-Балаховіча. У пачатку экспазіцыі віднеецца фатаграфія маёнтка ў Мейштах, дзе ён нарадзіўся, далей — здымкі з вайсковай службы, сямейнага жыцця і грамадскай дзейнасці ў ветэранскіх арганізацыях у даваеннай Варшаве. Паказваецца нават фатаграфія сабакі, які спадарожнічаў генералу ў ваенных подзвігах.

Атмасферу таго часу падкрэсліваюць экспанаваныя ўзоры ўзбраення і абмундзіравання арміі Булак-Балаховіча, медалі і ордэны, якімі ўзнагароджваліся „бацькавы” падначаленыя, дакументы, карты, экземпляры перыядычных выданняў, лістовак і плакатаў. Як доказ несапраўднасці стэрэатыпу: паляк — антыкамуніст, беларус — камуніст, аўтар выстаўкі паказаў на польскамоўную лістоўку „Komu służysz żołnierzu spod znaku Orła Białego?”, выдадзенай польскай Заходняй дывізіяй стральцоў, якая змагалася на баку бальшавікоў. Многа прэзентаваных экспанатаў паходзіць ад сям'і генерала Станіслава Булак-Балаховіча, прадстаўнікі якой у асобах хроснай дачкі Святланы Новікаў і ўнука генерала — Мацея Булак-Балаховіча прысутнічалі ва ўрачыстым адкрыцці экспазіцыі.

Выстаўку арганізаваў Музей войска супольна з Беларускім гістарычным таварыствам, а аўтарам сцэнарыя і яе камісарам з'яўляецца старшыня БГТ і наш рэдакцыйны калега доктар Алег Латышонак. Экспазіцыя будзе адкрыта да канца красавіка.

**Віталь Луба**

Ліст у рэдакцыю

# *Не магу зразумець*

*Калі пачуў я па Радыё Беласток беларускую перадачу Юркі Ляшчынскага, падумаў і сказаў: „Дзякуй табе за гэта, што крануў справу загінуўшых вазакоў з Гайнаўшчыны. Можа некаторыя першы раз аб гэтым пачулі, а некаторыя, мабыць, забылі”.*

*Было гэта ў 1946 годзе. Людзі яшчэ не прымірыліся з тым, што ім прынесла вайна. Адны разграбалі папялішчы, другія аплаквалі блізкіх, якіх забрала вайна. Памалу людзі прывыклі да пасляваеннай сітуацыі і нясмела глядзелі ў будучыню. Пыталі самі сябе: а што далей? якая ўлада? што будзе з намі? Вядома, беларусам ніколі добра не было. Хаця жывем на сваёй зямлі, лічымся чужымі. Беларусы заўсёды непатрэбныя былі.*

*Хадзілі чуткі пра банды. Там-сям нападалі яны на спакойных людзей, мардавалі, палілі. Не адзін з гневам казаў: „Мала ім вайны было. Не наваяваліся!” Аднак тут справа не ў вайне была. Новай улады яны не хацелі. І вось у такі час некалькі дзесяткаў сялян выслалі ў лес па дровы. Людзі паехалі і прапалі, як камень у ваду. Былі гэта сяляне з Чыжоў, Ягаднікаў і другіх вёсак.*

*Час зрабіў сваё, блізкія аплакалі бацькоў, сыноў і братоў. Усё прыціхла. Гаварылі, што войска іх забрала, вазакамі сваімі зрабілі. Аднак час праходзіў, а яны не вярталіся. Потым гаворка пайшла, што памардавала іх банда „Бурага”. Нямала такіх бандаў пасля вайны бадзялася. Улада ўжо замацавалася, а яны яе не хацелі, спакойным людзям не давалі адпачыць ад жахаў вайны.*

*І вось столькі спатрэбілася часу, каб успомніць аб прапаўшых вазаках. Кажуць, душа чалавечая бясследна не прападае. Мяне надалей турбуе пытанне: чаму ў цывілізаваным свеце трэба аж некалькі дзесятак гадоў, каб даведацца, што здарылася з людзьмі? У канцы выявілася як яны загінулі. Аднак ніхто з уладаў слоўцам не прамовіў, спачуванняў сем'ям загінуўшых не выказаў. Відаць, хочуць усе канцы папапіць у вадзе. Выглядае, што так трэба было. Калі пайшла адліга, пачалі шукаць прапаўшых і даходзіць, хто вінаваты.*

*Моднымі сталі эксгумацыі. Астанкі з усяго свету ў Польшчу прывозяць, толькі беларусам нельга. Беларусы — другі гатунак людзей. Блізкія памардаваных вазакоў самі заснавалі свой камітэт, стараюцца астанкі памардаваных перавезці бліжэй сваіх мясцін, каб час ад часу можна было памаліцца на магіле і свечку паставіць. Аднак усё каштуе. А ўладам гэта непатрэбнае, грошай няма. На справу беларускіх вазакоў грошай шкада. Яшчэ кажуць, што памардавалі вазакоў, бо вайна была і брат брата забіваў. Толькі гэта якраз сталася пасля вайны. І цікавіць яшчэ адно: чаму банда так многа братоў мела сярод беларусаў? А цяпер не асталося хаця аднаго, які братам-беларусам дапамог бы. На жаль, у беларусаў няма братоў сярод палякаў. Каб былі, тады ўсе справы пайшлі б інакш. А тут выглядае, што беларусы ў Польшчы жывуць як сіроты. Нікому яны непатрэбныя, не пачуюць яны ласкі і ніхто іх не любіць. А мне здавалася, што Польшча — гэта адзін прыгожы букет кветак, які складаюць усе нацыянальнасці, якія пражываюць у ёй і маюць аднолькавыя правы. Аднак, не! Некаторыя хочуць непатрэбныя кветкі з букета выскубці, кінуць іх у яму, або ў папялішча. Непатрэбныя кветкі ў букеце не пахнуць.*

*Пыталі ў міністра па ветэранскіх справах, чаму тыя, што пасля вайны мардавалі мірных людзей, атрымліваюць пэнсіі і ветэранскія дадаткі. Адказаў ён, што такі закон і адмяніць яго можа толькі сейм. Блізкія памардаваных нічога не зробяць, яны ж і прадстаўнікоў сваіх у сейме не маюць. Адабраць дадаткі аднак можна было толькі тым, што банды разбівалі. А тыя, што даўней былі ворагамі ўлады, цяпер сталі героямі. Іх цяпер паважаюць і ўзнагароджваюць. Аднак чалавеказабойцы, кім бы яны не былі, павінны быць асуджаны. Многа яшчэ ў нас такіх нявырашаных балючых спраў, і рашыць іх няма каму.*

***Грыша Мароз***

# Заява
## Беларускага саюза ў Рэспубліцы Польшча

*25 сакавіка 1997 года мінае 79 гадавіна абвяшчэння ў 1918 годзе незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэтая дата для ўсіх беларусаў з'яўляецца сімвалам сталасці народа і яго незалежніцкіх памкненняў.*

*Беларуская Народная Рэспубліка існавала коратка, аднак памяць аб гэтых падзеях захоўвалася і культывавалася. Гістарычныя сімвалы, герб Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг спадарожнічалі ўсім беларускім адраджэнскім і незалежніцкім памкненням.*

*Калі ў пачатку 90-х гадоў была абвешчана незалежная Беларуская дзяржава і былі вернуты гістарычныя традыцыі, міжнародная грамадскасць з пашанай ставілася да гэтых пачынанняў. На жаль, падзеі апошніх гадоў затармазілі працэс дэмакратызацыі дзяржавы і нацыянальнага адраджэння.*

*Сёння, пры нагодзе чарговай гадавіны акту незалежнасці, у Мінску збіваюць, арыштоўваюць, праследуюць людзей, якія выйшлі на дэманстрацыю пад гістарычнымі сімваламі. Беларускі саюз у РП выказвае сваю пашану для тых, каму ідэалы свабоднай і незалежнай Беларусі з'яўляюцца матывам іх дзейнасці. Беларусы ва ўсім свеце з непакоем сочаць за падзеямі ў Мінску.*

*Беларускі саюз у РП лічыць, што ў справе актаў насілля з боку прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі свой пратэст павінна выказаць міжнародная грамадскасць. Без дэмакратычнай Беларусі не будзе дэмакратычнай Еўропы.*

***Старшыня Беларускага саюза ў РП***
***Яўген Вапа***
***Беласток, 24.03.1997 г.***

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 447

Рэдактар: Сакрат Яновіч

**Алесь ЧОБАТ, гродзенскі інжынер-канструктар, але наш супольны паэт. Пяць гадоў назад меў свой вялікі дэбют (кніжка „Год”, 1992 г.).**

**Творчасць яго — гэта несціханы роздум пра Беларусь, яе мінулае, цяперашняе і будучае.**

## 1413 год. Гародля над Бугам

Немец пабіты. Святкуем з Еўропай яднанне.
Каталікі атрымалі гербы — гэй, славяне!
І праваслаўным няма чаго плакаць ізноў —
як сабе мелі, няхай пакуль маюць князёў.

Князь Аляксандр з каралём Уладыславам — ваўкі два старыя! —
новую рэзь наклікаюць ад Бельска па Лепель:
роўнасці роўнаю роўнасць бывае пятлёю на шыю.
Край разарвецца вайной! А хацелі ж, як лепей...

Лепей не трэба хацець. Не направіць сам Бог чалавека,
як напраўляюць тупую сякерыну кругам.
Свята. Стаяць пад царквою калека, калека, калека...
Немец пабіты. І свята ў Гародле над Бугам...

## Унія

Пётр Скарга расколаты крыж захацеў падняць,
але нават Ісус толькі цэлы насіў —
і там, дзе нехта адзін сабраўся яднаць,
сотня ўжо бяжыць — і рвуць з усіх сіл!

Леў Сапега спрадвечны хай захацеў спыніць,
але ж гэты люд толькі хайлаў слухаць прывык —
і там, дзе некалі пан адзін меў суды чыніць,
над усімі расправу чыніць кожны мужык.

Вось і выкупалі Трэйці Крыж у крыві!
Але кроў Кунцэвіча — не Ісуса кроў.
Бо на Небе адно, а інакш на зямлі,
на глухой зямлі ў час дажджоў, вятроў...

## Паўночная вайна

Эх і ўдарылі Сапегі на Агінскіх!
Эх і ўмазалі Агінскія Сапегам!
І чакае пан Агінскі палкоў рускіх,
і чакае пан Сапега палкоў шведскіх...

Неба стала з аблачынку — моцна б'емся за айчынку! —
за дзяўчынку так не б'юцца! Моцна б'емся — аж смяемся!
— Стой, панове! Гэта з нас ужо смяюцца!
— Ах ты, здраднік! На асіну таго немца...

Папялішчы на Айчыне. Вісіць здраднік на асіне.
Шведы скінулі штаны. Памірыліся паны.
Цар пакуль што ў Пецярбурзе — недзе нешта неяк будзе!
Едзе вош на мужыку. Шляхта разам — у шынку.

## Станіслаў Панятоўскі

Не трэба нам чужых паноў з наезным гнусам
і не па іх сягоння пусцім мы слязу —
вось Панятоўскі быў прыродным беларусам
і нават прозвішча сваё пісаў праз „у”!

І на вякі вякоў яму за гэта слава
і памяць вечная за шчырасць з дабрынёй,
бо ён даваў усім налева і направа
паводле звычаю між нашай вяскаўнёй!

А то ж спакою не было раней, мой Божа —
шумеў чарот і дрэвы гнуліся, пся маць!
Ды беларус адзін сапраўдны толькі зможа
Рэч Паспалітую на тры канцы раздаць...

## Начная выпіванка з Міхалам Клеафасам Агінскім

Браце мой! Пане Міхале, зайграй!
Хай твая скрыпка над Краем заплача —
тут не было і не будзе іначай.
Наш гэта люд з табой, наш гэта Край...

Браце Міхале! Ты не памірай!
Край адабралі — ёсць Неба над Краем.
Дзвесце гадоў на зямлі паміраем.
Наш гэта люд з табой, наш гэта Край...

Браце мой, пане Міхале, жыві!
Слёзы дрыжаць у тваім паланэзе,
рэха за скрыпкай блукае па лесе,
боль з наіўнотай кіпяць у крыві...

## Адам Міцкевіч

Адам Міцкевіч у Наваградку і ў Коўна
жыў небагата — але ж дыхаў поўна!
Але ў Паэта мала светлых дзён —
да Польшчы так і не даехаў ён.

Паэт спакойна памірае рэдка —
ў Канстанцінопалі расійская разведка
атруціла Міцкевіча, каб ён
не вербаваў там польскі легіён.

Сто пяцьдзесят гадоў прайшло, а я ўсё плачу.
Сто пяцьдзесят гадоў прайшло, а я ўсё бачу,
як пад наваградскі святы касцельны дах
нясе Тадэвуш Зосю на руках...

## Жалезны дуб на магіле Алаізы Пашкевіч

Не прапаў нідзе Алаізы Пашкевіч дух.
Скора век расце на магіле жалезны дуб,
і ўзыходзіць дрэвам святым проста ў Неба яе душа,
б'юць пярун і праклён па ім, а не можа праесць іржа.

Страшны век ляціць. Дзве войны адгулі за намі.
Колькі люду спіць пад крыжамі ды камянямі!
Толькі горшы сон на тутэйшы народ насланы —
служыць д'яблу ён, у бяспамяцтва закапаны.

Не забіце ў сабе людзей! З душ ганіце чужую нелюдзь!
Ратаваць вядзіце дзяцей да касцей Алаізы Пашкевіч,
каб на полі вялікім тут сэрцы сціснула ім слязамі,
і прасіце жалезны дуб сілы даць не быць халуямі!

## Вацлаў Іваноўскі

Каб пражыць мужыку — інжынера не трэба.
А навінкі яго галаву толькі дурань.
Да таго ж грошы ён выдае на паэтаў
і друкуе іх кніжкі — за што мае дулю!

Ездзіць ён з Пецярбургу да пані Варшавы
у вагоне з выгодамі, братка харошы!
А пра нашыя грошы калі нас пыталі?!
А ён ездзіць за нашыя, братка мой, грошы!

Чуеш, братка?! З усходу як прыйдуць Саветы —
разнясем на кавалкі Лябёдку мы тую!
І няхай забірае сваіх ён паэтаў —
і няхай на тым свеце іх кніжкі друкуе!

## Браніслаў Тарашкевіч

Чаму такі ўжо лёс?! Чаму заўсёды позна?!
Хоць сам ты на „Граматыцы” сваёй накрэслі крыж...
Сярэдняя Літва далучана да Польшчы,
а ў гэты Сэйм крычаць — як да глухіх крычыш.

У Цопатт*) тайняком? Па грошы да Саветаў?
Эх, што з таго жыцця, калі ляцім да зор!
І грымне Грамада — кароткая, як лета...
У гродзенскай турме даўжэйшы калідор.

Мяжа. Абмен. Масква. Чырвоным дробным клеркам
пісаць свой рэферат, сваёй чаргі чакаць
да ямы са сваім расстрэльным пакаленнем
і думаць, ці пачнуць „Граматыку” чытаць...

*) *Сёння: Sopot.*

## 1939 год

Скончыўся перапынак паводле актаў Версаля.
Новае пакаленне выступіла ў паход.
Танкі ўжо пад Варшавай. „Юнкерсы” над Варшавай.
У верасні наступае першы ваенны год.

Рыжскі падзел ганебны больш нічога не дзеліць.
Танкі даўно за Нёманам. Са слупоў „Говорит Москва!”.
Мястэчка стала райцэнтрам. У райцэнтры кірмаш. Нядзеля.
Ходзіць зямля пад нагамі. Кружыцца галава.

Звыклы пры кожнай уладзе жыць у ладзе і згодзе,
люд тутэйшы гадае, які ж гэта будзе лад —
як быццам ужо ўсё скончана... Эх, вясковы народзе!
Так хутка ён адгрукоча — у Брэсце супольны парад...

# У Крывой любяць конкурсы

Раніцай, 21 сакавіка, перад школай у Крывой панаваў зрух. У гэты дзень не было заняткаў. Старэйшыя вучні і іх настаўнікі рашылі па-новаму адсвяткаваць першы дзень вясны. У школу завіталі таксама сямікласнікі і двое васьмікласнікаў з Орлі.

— Мы да сваіх старых сяброў прыехалі, — паясняе **Славамір Сахарэвіч**, настаўнік фізкультуры з Орлі.

Раней дзеці з Крывой вучыліся ў Орлі. Ад 1996/97 навучальнага года ў Крывой зноў дзейнічае школа. Сюды перайшлі дзеці з Пасынак.

— Цяпер наша школа называецца „Szkoła Podstawowa w Pasynkach z siedzibą w Krzywej", — кажа дырэктар **Яўген Хількевіч**. Зараз вучыцца тут 63 дзетак.

— Умовы працы намнога лепшыя, чым у Пасынках, — кажуць настаўнікі. — Нашы вучні не маглі нацешыцца прасторным двухпавярховым будынкам. Першыя тры месяцы то ўсё па калідорах бегалі, — успамінаюць.

Настаўніца **Раіса Ваўранюк** паказвае мне класныя кабінеты. Усюды парадак, цікавыя насценныя газеты.

— Нашы прыбіральшчыцы — цудоўныя жанчыны, — кажа дырэктар. — Пра школу як пра ўласны дом дбаюць.

Настаўнікі хваляць таксама і бацькоў.

— Школа тры гады пуставала. Пазней трэба было рамонт зрабіць, навесці парадкі. Бацькі многа дапамагалі.

З Крывой аж 15 дзяцей ходзіць у школу.

— Солтыс з Крывой дзяцей не мае, — кажа дырэктар, — але ва ўсім нам дапамагае.

У школе многа ўвагі адводзіцца прадметным і артыстычным конкурсам. Самай вялікай энтузіясткай конкурсаў з'яўляецца **Юліта Яканюк**, вучаніца VIII класа. Юліта перайшла да ваяводскага прадметнага конкурсу па польскай і рускай мовах. Рыхтавалі яе настаўніцы **Раіса Ваўранюк** і **Марыя Троц-Грыгарук**. Дзяўчынка прымала ўдзел яшчэ ў трох іншых конкурсах. Яна ўдзельнічала ў прадметным конкурсе па геаграфіі і дэкламатарскім — польскай і беларускай паэзіі і прозы. Варта дадаць, што Юліта піша вершы на беларускай мове, а яе творы ўжо друкаваліся ў „Зорцы" і зборніку „Словы ў лабірынтах".

— Аж 9 асоб прыступіла да дэкламатарскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы, — кажа спадарыня Ваўранюк. — І тры асобы апынуліся на цэнтральных элімінацыях.

— **Аня Паўлючук** з IV класа заняла першае месца. Дэкламавала яна твор Эдуарда Валасэвіча „Слаўны Аўген". Таксама **Аня Паўлючук** з VII класа і **Андрэй Паўлючук** з II класа апынуліся сярод лаўрэатаў. Аня выступіла з вершам Канстанцыі Буйло „Помніш вечар" а Андрэй дэкламаваў твор Янкі Купалы „Верабейчык". Да конкурсу дзяцей падрыхтавалі настаўніцы беларускай мовы **Раіса Ваўранюк** і **Людміла Жэрэнь**.

Не ўсе дзеці з Крывой ходзяць на беларускую мову. Гэтаму прадмету вучыцца 36 школьнікаў. Зараз настаўніцы рыхтуюцца да чарговага артыстычнага мерапрыемства — агляду дзіцячай беларускай песні.

Сярод конкурснікаў настаўнікі назвалі таксама вучаніцу VII класа **Моніку Сергяюк**. Моніка прымала ўдзел у прадметных конкурсах па геаграфіі і польскай мове.

**Крыстына Кавальчук** з VII класа таксама энтузіястка конкурсаў. Яна прымала ўдзел у прадметным конкурсе па рускай мове і дэкламатарскім па польскай і беларускай мовах.

Васьмікласніца **Бася Ляўчук** удзельнічала ў прадметных конкурсах па рускай і беларускай мовах.

У канцы трэба і згадаць пра дэкламаторкі беларускай паэзіі і прозы. Да гэтага конкурсу рыхтаваліся яшчэ дзве сямікласніцы **Бася Пракапюк** і **Эля Нічыпарук**. І сапраўды, такой колькасці конкурснікаў, поспехаў і пераможцаў пазайздросціла б не адна школа.

У Крывой дзеці весела адсвяткавалі першы дзень вясны.

„Зорка" разам з сябрамі з гэтай школы тапіла Маранну. Дарэчы, у першы дзень вясны стаяў лёгкі марозік. Аднак ніхто са старэйшых вучняў не хацеў заставацца ў школе. Усе любаваліся лясным шпацырам, вогнішчам і печанымі каўбаскамі. Усе таксама клікалі капрызную вясну. Думаю, што не толькі ў Крывой чакаюць ласкавай цёплай вясны. Па дарозе мне сустракаліся групы дзетак, якія таксама рашылі падпаліць і затапіць Маранну.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*



*Вясну сустракалі ўсе старэйшыя вучні і настаўнікі.*



*Энтузіясткі конкурсаў з настаўніцай Раісай Ваўранюк.*

# Сустрэча са шчаслівым чалавекам

Ёсць людзі, якія ў сваім жыцці ніколі не спазналі біды і гора. Усё ў іх ладзілася, усяго хапала. Такія людзі звычайна, не цэняць свайго шчасця. Яны і так заўсёды хочуць больш і больш. Ёсць таксама і такія людзі, якія перажылі абедзве сусветныя войны, біду, няволю і цяпер цешацца тым, што жывуць, і тым, што маюць. Я мела магчымасць спаткаць такога чалавека ў Доўгім Бродзе, адной з пушчанскіх вёсак Беласточчыны. Цімафей Балевіч аказаўся адным з цікавейшых людзей, якіх я спаткала ў сваім жыцці. Гэта стары чалавек — нарадзіўся ён у 1913 годзе. Спатканне з ім было кароткае таму, што ён адпраўляўся ў лес, а вядома, вясковыя людзі заўсёды забеганыя. Хаця і вельмі мала мы размаўлялі, дзедка паспеў многа нам расказаць. Мяне вельмі зацікавіў яго расказ пра беларускіх партызанаў, якія прыязджалі ў Доўгі Брод і заходзілі да бацькі нашага расказчыка. Маламу Балевічу найбольш падабалася, калі партызаны прыязджалі на конях. Ён тады таксама марыў, што калісьці стане жаўнерам. Яго дзіцячая мара збылася ў час II сусветнай вайны. Праўда, тады ўжо наш субяседнік не марыў быць салдатам. Як малады сяржант ваяваў ён на вайне і там папаў у нямецкі палон. Ведаючы нямецкую мову, часта выступаў як перакладчык. Мяне вельмі здзівіла, што дзядзька Балевіч з усмешкай на твары ўспамінаў цяжкія гады свайго жыцця. Потым я зразумела, што з радасцю трэба прымаць усё тое, што нясе нам жыццё.

**Яніна Сегень**

**Вуч. VIII класа ПШ у Курашаве**

*(Рэпартаж узнік пасля VII Сустрэч „Зоркі")*

# Вершы Віктара Шведа

### Чаму стукоча дзяцел?

— Што гэта за птушка? —
Доня пытае маці?
— Дык гэта ж, дачушка,
Карысны вельмі дзяцел.

— Чаму ж ён безупынна
Страшэнна так стукоча?
Можа у шчыліну
Яго ўпусціць не хочуць?

### Ці немаўляты маюць двух татаў?

Жанчына ў парку
З дзяўчынак паркай.
Бачыць Агата
Тыя блізняты.

Тату пытае
Доня малая:
— Ці немаўляты
Маюць двух татаў?

### Дапамога-перасцярога

Бачыць ля дзвярэй прахожы
Невялічкага сынка,
Дасягнуць ніяк не можа
Ён кватэрнага званка.

І пражожы падымае
Дзетку, зазваніў званок...
— Ты як хочаш, я ўцякаю, —
Раптам закрычаў сынок.

# Лівонская вайна

*Аўтарам комікса з'яўляецца вучань VII класа Пачатковай школы ў Чыжах, які падпісваецца псеўданімам „Янка".*




У 1558 годзе ізноў разгараецца змаганне Літвы з Масквою. Маскоўскі цар Іван IV напаў на Лівонскі ордэн крыжаносцаў — суседзяў Літвы на паўночным захадзе. Магістр (кіраўнік) ордэна Кэтлер звярнуўся да вялікага князя Жыгімонта Аўгуста з просьбай далучыць Лівонскі ордэн да Літвы ды абараніць яго перад маскоўскім наездам.

Жыгімонт Аўгуст згадзіўся на гэтую прапанову і збройна выступіў супроць Масквы. Пачалася гэтак званая Лівонская вайна, якая, з перапынкамі, трывала амаль 25 гадоў. Была яна вельмі цяжкой, бо Вялікае княства было змушана бараніцца адначасна не толькі ад Масквы, але і ад шведаў, якія таксама напалі на Лівонію, ды ад крымскіх татараў, што ўзнавілі свае наезды на паўднёвае пагранічча дзяржавы — украінскія землі.

У 1562 годзе войска Івана IV уварвалася ў Беларусь, пустошачы Віцебск, Дуброўну, Оршу, Полацк ды іншыя месцы.

Пазней літоўскія ваяводы ўсё ж разбілі ворага ў колькіх бітвах: князь Мікалай Радзівіл у 1564 годзе пад Чашнікамі, князь Сангушка ў 1568 годзе пад Вулай, ды ваявода Пац пад Віцебскам. У выніку часовага замірэння Полацк і ўся ўсходняя Лівонія ўсё ж такі засталіся пад уладаю Масквы.

*(працяг будзе)*

# Крыжаванкі № 14

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Jar / Piękno | | Wstręt, obrzydzenie | Błyskawica / Smutek | |
| | | | | |
| Zima | Hałas, harmider | | | |
| Sęk | | | | |
| | Wojak | | Jad | |
| | | | | |
| | Jedzenie | | | |

- колер снегу
- дванаццаць у годзе
- беларускі паэт
- мама тваёй мамы
- там жылі Адам і Ева
- там жывуць пчолы
- свеціць на небе
- буйны лясны звер

*Крыжаванку склаў Лукаш Годун, шасцікласнік са школы ў Храбалах.*

**Адказ на крыжаванку н-р 10: Прадвесне.**

Узнагароды — **кніжку Міколы Гайдука „Белавежскія быліцы і небыліцы"** выйгралі: **Марак Сахарчук** з Орлі, **Аня Філіманюк** з Бельска-Падляшскага, **Марцін Білеўскі** са Старога Беразова, **Анэта Яканюк** з Нарвы, **Івона Леанюк** з Бельска-Падляшскага, **Ігар Дзікевіч** са Старога Беразова, **Кася Каліноўская** з Нарвы, **Сільвія Паплаўская** з Гарадка, **Славамір Калнаўс** з Кнарыд, **Каміля Карповіч** з Гарадка.

**Віншуем!**

# Мая вёска Трывежа

Вёска Трывежа знаходзіцца непадалёк Гайнаўкі. Назва мясцовасці ўзялася ад трох вялікіх веж, якія паставіў уласнік мясцовасці. У яго быў прыгожы сад.

Вёска налічвае цяпер каля шасцідзесяці дамоў. Палова сялян займаецца гаспадаркай, апошнія — гэта пенсіянеры. У трох дамах ніхто ўжо не жыве.

У Трывежы ёсць крама, а каля яе малачарня. Год таму назад солтыс і вяскоўцы пабудавалі клуб. Часам у свята іграе там музыка. Усе вучні з маёй вёскі ходзяць у школу ў Новы Корнін.

Мая вёска — невялікая, але прыгожая. Асабліва вясной, калі цвітуць яблыні і грушы.

**Аня ПРАКАПЮК**
**ПШ у Новым Корніне**



Талон „Зоркі" № 14
06.04.1997

**— „Я — беларус!" — Віктар Швед быў першым, хто так ясна акрэсліўся, уваходзячы ў „Ніву", — успамінае Георгій Валкавыцкі.**

# Усё яшчэ пішацца!

У саракагоддзе дэбюту Віктара Шведа 24 сакавіка 1997 г. у будынку Галоўнага Праўлення БГКТ сустрэліся яго сябры з беларускага таварыства, Саюза польскіх пісьменнікаў і „Белавежы", журналісты „Нівы", ліцэісты, прадстаўнікі Міністэрства культуры і мастацтва РП і беларускіх уладаў. Адчыталіся юбілейныя тэлеграмы — ад міністэрства, пасольства РБ у Польшчы, консульстваў у Гданьску і Беластоку, Саюза пісьменнікаў Беларусі, беластоцкай Ваяводскай управы.

З вялікай прыемнасцю і гонарам удзельнічалі мы ўсе ў гэтым свяце. Юбілей Віктара Шведа сведчыць аб тым, што маем чым ганарыцца тут у нас на Беласточчыне і не толькі, што дасягненні Віктара Шведа як паэта і грамадскага дзеяча — таксама і нашы, беларусаў Беласточчыны, дасягненні, і дай Божа, каб хоць крышачку такі плённы і глыбокі след мы змаглі пакінуць у душах (і на кніжных паліцах) нашага грамадства.

Тэму ўздзеяння творчасці і асобы Віктара Шведа кранулі прамоўцы Аляксандр Баршчэўскі і Георгій Валкавыцкі. Успомнілі яны гады, калі, яшчэ маладыя, пачыналі нашу дзейнасць на Беласточчыне, як сеялі слова на нашай зямлі і не толькі, стараючыся непасрэдна, у твар спатыкацца з чытачамі па вёсках — пад адкрытым небам, у школах, святліцах, у хатах... Якое моцнае было тады (і сёння ёсць) слова Віктара Шведа! Слова простае, яснае, зразумелае, натхняючае! Сёння яно заглядае ў хаты кожны тыдзень — з „Зоркай", з песняй.

Вершы Віктара на сустрэчы прагучалі з вуснаў Юбіляра і ліцэістак з Бельска. Вялікую падборку сваіх (выдатных!) перакладаў прадставіў Ян Лсанчук (у маі пакажацца першы зборнік твораў В. Шведа, перакладзеных на польскую мову; дагэтуль яны траплялісі дзе-нідзе ў польскай прэсе, у календарах). Цешымся, што і польскія дзеці пазнаёмяцца з творчасцю В. Шведа для малечаў і вучняў — у выдавецтве KAW складзена ўжо вялікая кніга перакладаў, з малюнкамі Тані Місяюк.

Юбіляру ўручаны ўзнагароды, граматы, падарункі ад Міністэрства культуры і мастацтва РП і Ваяводскай управы. Вялікае дзякуй Вам, паважаны Віктар Швед, ад нас усіх, асабліва маладой рэдакцыі „Нівы", — Вашых вучняў. Нашы дзеці таксама вучацца роднаму на Вашых словах.

Чакаем Вашых новых твораў. Вы ж далі слова пісаць для нас, бо „усё яшчэ пішацца!"

**Міра Лукша**
*Фота аўтара*


*Валянціна і Наталька Швед — жонка і дачка Юбіляра.*


*Злева: Тамара Русачык, Янка Сычэўскі, Віктар Швед і Ежы Бісяк — дырэктар Бюро па справах нацыянальных меншасцей Міністэрства культуры і мастацтва РП.*



# Прывітанне вясны ў Орлі

21 сакавіка 1997 года вучні Пачатковай школы ў Орлі правялі пад адкрытым небам, а праграму гэтых незвычайных адпачынковых заняткаў падрыхтавала апякунка школьнага самаўрада, настаўніца Вольга Рынгайла.

У гэты дзень вучні, якія наведваюць святлічныя заняткі, і навучэнцы другога класа, узначаленыя апекунамі: Вольгай Рынгайла, Валянцінай Вітошка, Крыстынай Казак, Беатай Гарадэцкай, Яўгеніяй Тхарэўскай, Юрым Грыгаруком і Пятром Фармаіноўскім, падаліся над рэчку Арлянку. Раней дзеці пад кірункам народнага майстра Уладзіміра Палавянюка сплялі з саломы прыгожую, вялікую куклу Мажанны, а другакласнікі самастойна зрабілі меншую. У сувязі з тым, што школа атрымала экалагічную забарону тапіць Мажанну ў рацэ, абодва сімвалы мінулай зімы былі спалены на берагу ракі.

Затым уся група падалася ў непадалёкі лес і на паляне распаліла вогнішча, падрыхтаванае раней вучнямі восьмага класа. Тут дзеці пяклі прыхопленую з дому каўбасу.

Пры нагодзе запытаў я настаўніка Аляксея Пятра Фурманоўскага пра пазаўрочныя заняткі ў арлянскай школе.

— У нас аднавіла дзейнасць 79 Гарцэрская дружына імя Уладзіслава Бранеўскага, якую я ўзначальваю. Экалагічную забарону тапіць Мажанну ў рацэ абумоўлівае гарцэрскае права, у якім сказана: „Гарцэр любіць прыроду і стараецца зведаць яе". Таму менавіта спальваем Мажанну, а не топім. Заснаваў я таксама Дружыну імя Стэфана Міроўскага ў суседняй вёсцы Крывая, якая цяпер належыць Бельскай гміне. Раней гэтыя дзеці вучыліся ў нашай школе і я імі апекаваўся. Паколькі ў Крывой не было каму заняцца гарцэрамі, я рашыўся і там заснаваць дружыну. Цяпер пад маёй апекай знаходзіцца 80 гарцэраў. Праца з імі патрабуе многа часу і адданасці, але дае таксама задавальненне і з'яўляецца доказам, што ў сённяшнім свеце важныя не толькі грошы. Усмешку дзіцяці не купіш, толькі трэба здабыць яе працай.

Настаўніца Беата Гарадэцкая, якая ў школе вядзе турыстычны гурток, расказвае:

— У школе працуе спартыўны гурток. Настаўнікі фізкультуры Славамір Сахарэвіч і Юры Грыгарук рыхтуюць дзяцей да спаборніцтваў па настольнаму тэнісу, а ў час зімніх канікулаў арганізавалі дзецям заняткі. Я ў тым часе правяла чатыры дні на адпачынку з дзецьмі-інвалідамі ў Бельску. Школьнаму самаўраду лідзіруе восьмы клас, які арганізуе або дапамагае падрыхтаваць школьныя ўрачыстасці. Самаўраду старшынюе васьмікласніца Людвіка Назарэвіч. Заняткі на прыродзе патрэбныя вучням і настаўнікам, таму што разраджаюць псіхічнае напружанне, стрэсы.

Хаця 21 сакавіка надвор'е не было вясеннее, смех, жарты, забавы спадарожнічалі дзецям і настаўнікам, якія выйшлі развітацца з зімой і прывітаць вясну. Толькі браць прыклад з Пачатковай школы ў Орлі!

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

# Як лысыя ў Беластоку вясну сустракалі

21 сакавіка, зараз пасля 9 гадзіны раніцы, навокал ратушы ў Беластоку, што пры Рынку Касцюшкі, з'явіліся першыя групы школьнай моладзі, каб адзначыць першы дзень вясны. Мала было дзяўчат і хлопцаў спецыяльна фантазійна апранутых з гэтай нагоды. Дамінавалі ўзоры моды жыўцом перанесеныя з амерыканскіх „сламсаў", якія пастаянна прапагандуе польскае тэлебачанне, а асабліва канал „Polsat". Некалькі соцень маладых людзей, з якіх шмат трымала ў руках бутлі з півам, голасна заяўлялі аб сваёй прысутнасці на нашай прыгожай планеце. Сярод гэтага крыклівага натоўпу большасць складалі лысыя. Валасатыя, якіх было менш, збіраліся ў другім кутку сквера, бліжэй вуліцы Сураскай. Відаць, абедзве секты не надта сябе любяць. Адны і другія пастаянна патрасалі кулакамі, бутлямі і нейкімі палкамі ў бок канкурэнтаў. Крык быў неміласэрны, але найчасцей, так як калісь на фронце „ура", каля беластоцкай ратушы пастаянна паўтараўся ваенны вокліч „ку..а". Усё гэта нагадвала нейкі дэсант крумкачоў вакол падла. Каля дванаццатай лысыя рушылі ў напрамку валасатых, а тыя кінуліся ўцякаць вуліцай Сураскай. Плошча каля ратушы як бы апусцела, толькі на скверы, каля кафейкі „Marszand" некалькі дзесяткаў лысых у цяжкіх салдацкіх ботах з транспарантам Narodowego Frontu Polskiego праводзіла палітычны мітынг. У рэчаіснасці на працягу пятнаццаці мінут яны стаялі і крычалі: „Czysta rasa, polska rasa!", „Polska dla Polaków!" Нішто не паказвала на тое, што пад лысымі чэрапамі магла б памясціцца хаця б дэфініцыя расы. У вачах гэтых сталагрывных дзецюкоў было столькі фанатызму, што кожны фюрэр абдорыў бы іх афіцэрскімі званнямі.

Гадзіну пасля на вуліцы Сураскай сабралася паўтысячы салідарнікаў, якія рушылі змагацца з „камунай". Зараз таксама пачаў падаць густы снег. Вясна не захацела ў гэты дзень завітаць у Беласток. Можа пабаялася лысых?

**(ям)**

Ужо другі раз у Міхалове...

# Каб жыла легенда

Ужо другі раз у Міхалове адбылося мерапрыемства з цыкла „Безыменная творчасць. У пошуках легенд". Падсумаванне конкурсу на найцікавейшыя легенды Беластоцкай зямлі адбылося 1 сакавіка бягучага года ў Міхалоўскім гмінным асяродку культуры. Трэба падкрэсліць, што прыдумаў гэты конкурс працаўнік мясцовага ГОКа Рышард Варабей, „пісьменнік", як называюць яго некаторыя ў Беластоку. Ён жа быў галоўным арганізатарам мерапрыемства і найбольш плённым збіральнікам мясцовых легенд. Ну, а Ваяводскі асяродак анімацыі культуры сардэчна дапамог яму ў гэтым. Зрэшты, ВААК ужо па традыцыі адгукаецца на розныя праявы культуры „малых айчын".

Чаму сёння гэта такая важная справа? Бо легенда, вусная народная творчасць канчаецца, а верх бярэ творчасць пісьмовая. А варта было б для наступных пакаленняў захаваць тое, што на працягу соцень гадоў стваралася і перадавалася з вуснаў у вусны, ды нешта зрабіць, каб жыла легенда, а не існавала толькі ўжо ў мёртвай форме.

Яшчэ па крышынках яе можна знайсці і запісаць ад старых людзей, некаторыя са збіральнікаў капаліся ў старадруках, нават і за граніцай. У конкурсе ўзяло ўдзел 66 асоб з усяго ваяводства.

Вось, напрыклад, Янка Ляўкоўскі запісаў легенду, адкуль узялася назва Тыневічы. „А было так. З Нарвы, з праваслаўнага манастыра па дарозе ў Бельск-Падляшскі і далей у Драгічын ішлі тры манахі. Аднойчы затрымаліся яны на ўзгорку сярод лесу і распалілі вогнішча. І так ужо пайшло, што заўсёды ў гэтым месцы ўсе вандроўнікі затрымліваліся і адпачывалі.

Праз нейкі час манахі пабудавалі тут сабе тын, гэта значыць агароджу з тоўстых бярвенняў, якая добра ахоўвала іх ад ваўкоў і іншых драпежных звяроў. Паступова тын разбудоўваўся. Каля яго пачалі сяліцца людзі. Пачалі яны карчаваць лес і апрацоўваць новыя палеткі.

Жыхароў з ваколіцы, якая знаходзілася недалёка ад тына, пачалі называць тыневічанамі... Менавіта адсюль узялася назва пасёлка. Цяпер ёсць дзве вёскі: Вялікія і Малыя Тыневічы ў гміне Нарва".

Шкада толькі, што гэта легенда, як і большасць іншых, была запісана і надрукавана ў спецыяльным зборніку, выдадзеным з нагоды конкурсу, па-польску. Але вось ужо сярод збораў Барбары Леанчук і Мар'юша Мінкевіча паяўляюцца легенды, пераказаныя больш аўтэнтычна. „Tam na mogiłkach choleryczych stały trzy sosny. Jakieś tam powstanie było, to wieszali na nich ludzi. Mówił o, że tam mogiły od szwedzkiej wojny, naprotiw chwojow, kto kopaje, to kości człowiecze dostaje tam tоże". (Інфармаваў Антон Чарнякевіч).

Сярод узнагароджаных апынуліся і Рышард Варабей, і настаўнік-пенсіянер Лешак Нос з Міхалова, і сужонства Барбара і Ян Леанчукі разам з Мар'юшам Мінкевічам, і Янка Ляўкоўскі, і Станіслаў Войдат, і іншыя.

Фурор, аднак, зрабіла наша шматгадовая карэспандэнтка Аўрора (Ірэна Лукша). Бедная, на фестываль беларускай песні не ўзялі, не прайшла яна са сваімі сумнымі, старадаўнімі песнямі тыпу балады праз раённы агляд у Гайнаўцы. Але пры легендах упёрлася: сама іх раскажу ў Міхалове! І гэта было найбольш аўтэнтычнае выступленне, бо хаця актрыса Зуля Бжэзінская чытала некалькі легенд з ваколіц Белавежскай і Кнышынскай пушчаў па-майстэрску, дык сапраўднай апавядальніцай была менавіта яна, Ірэна Лукша — толькі яна „баяла" легенды, як і павінна быць. Расказала сваім моцным голасам дзве легенды з Гайнаўшчыны: „Баран" і „Дзяўчына з пекла", якія чула ад бабы Маланні Бірыцкай. І гэта было тое!



*Умее Аўрора баяць легенды!*



*Яны ўжо сваё зрабілі: Тамара Бурачэўская з Гарадка і Рышард Варабей з Міхалова.*

Атрымала, зрэшты, спецыяльную ўзнагароду, раўнавартасную першай узнагародзе.

Сёлета на конкурс былі прадстаўлены таксама працы народных мастакоў і разьбяроў, звязаных з легендай. Усе яны былі паказаны ў асобным пакоі і за іх таксама былі прызнаны ўзнагароды.

Легенды збіраліся ў гмінах: Міхалова, Нарва, Супрасль, Чорная-Беластоцкая, Нараўка, Заблудаў, Крынкі, Гарадок, Харошча, Кнышын, Драгічын, Юхнавец. Некаторыя з іх друкаваліся раней у „Ніве". На маю думку, час аддаляе нас, на жаль, ад гістарычнай праўды. Вось хаця б у легендзе, запісанай у ваколіцы Чорнай-Беластоцкай, збіральнік Станіслаў Войдат мяркуе, што, хаця ў рацэ жыло страшыдла, якое мясцовае насельніцтва называла па-беларуску „Юр", дык рака Юрчыха ўжо называлася ад польскіх слоў: „Jur czyha". А мне здаецца, што і рака, як той вадзянік, называлася па-беларуску: Юрчыха, значыць, жонка Юра.

Ну, але імпрэза была знакамітая. Сабраліся тут не толькі збіральнікі легенд і народныя творцы, але прыехалі і знатныя госці: Генеральны консул РБ у Беластоку Міхась Слямнёў са старшынёй Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей РБ Аляксандрам Білыкам, Антоні Філён (родам з Міхалова) з Міністэрства культуры РП, дырэктар Аддзела культуры, спорту і турызму Ваяводскай управы ў Беластоку Казімеж Дэркоўскі з дэлегацыяй работнікаў культуры з Гарадзеншчыны на чале з Вячаславам Брыкачом, дырэктарам Аддзела культуры Гарадзенскага аблвыканкама, ды іншыя.

Пасля падсумавання вынікаў конкурсу быў паказаны фільм пра Міхалова і выступілі два мастацкія калектывы з Гарадка: „Расспяваны Гарадок" (славуты гарадоцкі калектыў толькі ў мінулым годзе займеў гэту назву) і новы інструментальны калектыў, які існуе ўсяго два месяцы.

Слухаючы гарадоцкіх жанчын, Багуслаў Асташэўскі, старшыня міхалоўскай Гміннай рады, уздыхнуў: „Во каб нам такі калектыў! Шкада, што ў нас людзі не могуць ніяк арганізавацца..."

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*



*Палачка-выручалачка для Міхалова — знакаміты гарадоцкі калектыў.*

# Благавешчанне

Пасля шасці месяцаў ад з'яўлення Ангела свяшчэнніку Захарыю, Бог паслаў Архангела Гаўрыіла ў Назарэт з весткай, што Марыя стане маці Збавіцеля свету. Архангел з'явіўся ў доме Іосіфа і прывітаў яе наступнымі словамі: „Радуйся, ласкаю абдараваная! Гасподзь з Табою; Благаслаўлёная Ты паміж жанчынамі". Марыя ўсхваляваліся, але Ангел сказаў: „Не бойся, Марыя, бо ты атрымала мілату ад Бога. І вось ты зачнеш ва ўлонні і народзіш Сына, і дасі Яму імя: Ісус. Ён будзе вялікі і назавецца Сынам Усявышняга; і дасць Яму Гасподзь Бог прастол Давіда, бацькі Яго. І будзе Ён цараваць над домам Якава вечна, і царству Яго не будзе канца". Марыя спыталася ў Ангела: „Як гэта будзе, калі я мужа не знаю?" Ангел адказаў так: „Дух Святы сыдзе на цябе і сіла Усявышняга асяніць цябе, таму народзіцца Святое і назавецца Сынам Божым". Тады Марыя з пакорлівасцю прыняла архангельскае дабравешчанне, сказаўшы: „Я — раба Твая, няхай будзе згодна са словам Тваім".

Благавешчанне (Дабравешчанне) Праваслаўная царква адзначае 7 красавіка (25 сакавіка па старому стылю) і лічыцца яно адным з самых вялікіх свят. Царкоўнаславянскае слова *благавешчанне* абазначае добрую, радасную вестку, дабравесце аб тым, што пачалося вызваленне чалавечага роду ад граху і вечнай смерці.

Праваслаўная царква глыбока ўшаноўвае Прасвятую Дзеву Марыю. Доказам гэтаму з'яўляюцца малітвы і акафісты ў гонар Божай Маці. Пра прывязанасць да Божай Маці сведчаць таксама шматлікія іконы, напрыклад, Пачаеўская, Уладзімірская, Казанская, Турковіцкая і іншыя. Царква таксама ўшаноўвае ікону Чанстахоўскай Божай Маці, якая была напісана на Усходзе і прывезена ў Польшчу ў 1382 годзе. Праваслаўныя вернікі ўсхваляюць Божую Маці ў многіх песнях. Вельмі прыгожым і багатым зместам з'яўляецца „Ангельскае прывітанне", у якім нагадваецца сцэна Дабравешчання:

*Богородице Дево радуйся*
*благодатная Марие, Господь с Тобою*
*благословенная Ты в женах*
*и благословен плод чрева Твоего*
*яко Спаса родила еси душ наших.*

**Міхал Мінцэвіч**

# Аляксандр Лашук



Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі з сумам паведаміла нашу рэдакцыю, што ў панядзелак, 3 сакавіка 1997 года на 88-ым годзе жыцця пасля доўгай хваробы памёр Аляксандр Лашук. Пахавальны абрад адбыўся 11 сакавіка ў царкве святых апосталаў Пятра і Паўла ў Лондане, а цела нябожчыка спачыла на могілках St. Pancras Cemetery.

Спадар Аляксандр Лашук быў нашым пастаянным чытачом, адгукаўся на ніўскія публікацыі, дасылаў карэспандэнцыі. Цікавіўся жыццём беларусаў Беласточчыны, дапамагаў у выданні паэтычных зборнікаў, падтрымліваў іншыя беларускія ініцыятывы.

# Прабел

Быў прабел, значыць белая пляма. Такую тонкасць не кожны смяротнік заўважыць; можа гэта зрабіць толькі надораны незвычайнай зоркасцю і другімі выдатнымі звышчалавечнымі якасцямі супермен. І ён заўважыў гэту белую прорву і тут жа, як Чапаеў шаблю, выхапіў пяро і замазаў яе. Цяпер замест гэтага ідэала чысціні красуецца аўтаагіяграфія зоркага супермена. І напісана ў ёй, што ён суцэльны Плюс без адзінеькага прабелу! І прыгожа напісана, бо ён — Пісьменнік! І не толькі: ён і Пасажыр, а некаторыя гавораць, што ён і Прынцыпал ці прынамсі Прынц. Не ведаю, як другім, але мне гэтая аўтаагіяграфія бачыцца без арэола, быццам тут нешта не так. Мусіць гэта таму, што была яна распісана з багацейшага нутра, а я вось бегаю па вонкавых аспектах. Каб так яе звонку... Не было хіба каму, няма другога такога суперзоркага, каб сам гэтакага дадумаўся. Але ж можна было, калі ўжо ніхто сам не рваўся, наняць каго і прадыктаваць яму, або прынамсі паставіць галоўныя тэзісы, каб той кругленька напісаў паводле іх. Знаю, што адзін такі ёсць, Таксама-Пісьменнік, і па заказу піша ахвотна. І ілгунства ніякога не можа сцярпець. Дагаварыцца толькі з ім, як са старым беларусам, трэба было... І адграхатаў бы ён не нейкую агіяграфію, а найсапраўднейшае жыцце; ён майстар пісаць пра праведных лотаў сярод агіднага навакольнага садома. І так напісаў бы, што і „mucha nie siada", як напрыклад на Яго Таксама-Высоканараджэнства Франца Іосіфа ў Паліўцавай карчме. І падпісаўся б як трэба: ці псеўданімам толькі, ці прозвішчам якога вельмі набожнага славяніна, ці нейкім другім агія-чынам. Хто ведае, можа ад такога і партрэты Пісьменніка з'явіліся б у ганаровых куточках. Калі б так, дык абяцаю, што і я сабе такі абразок павешу.

**Адам Маньяк**

# Падзяка тэлебачанню

У сераду 12 сакавіка прыехала да мяне Беластоцкае тэлебачанне зняць матэрыял аб жыцці людзей у вёсках Беласточчыны. Перадачу гэтую паказалі ў нядзелю 16 сакавіка. Я з'яўляюся пастанным чытачом „Нівы" больш за трыццаць гадоў і каля трыццаці гадоў яе пастаянным карэспандэнтам. Пісаў я спачатку невялікія артыкулы, а калі лепей вывучыў літаратурную мову, паспрабаваў пісаць вершы. Складаю вершы да гэтай пары і не магу вам сказаць, калі перастану, бо гэта залежыць ад вышэйшай сілы. Мне ўжо 63 гады і маё жыццё, як гавораць у народзе, ужо па палавіне.

Трэба, каб Беластоцкае тэлебачанне адвяло нам больш часу. Тут, на „усходняй сцяне" Беласточчыны, пражывае насельніцтва многіх нацыянальнасцей і веравызнанняў. Жывуць яны згодна, на святы заходзяць адны да другіх. У Беластоцкім тэлебачанні павінны быць пастаянныя перадачы на родных мовах гэтых людзей.

Шчыра запрашаю Беластоцкае тэлебачанне прыехаць да мяне, а я абвязу іх па наваколлі і пакажу такіх гаспадароў, якія ўжо гатовы ўвайсці ва Унію, а таксама вёскі, якія паміраюць натуральнай смерцю.

Мне не хочацца, каб з Беласточчынай сталася тое, аб чым калісь апісваў Аляксандр Амільяновіч у сваіх кніжках, як гэта Эрых Кох хацеў спалучыць Белавежскую пушчу з Кнышынскай і засадзіць усю Беласточчыну лесам, каб немцы мелі дзе прыязджаць на паляванні.

Дарагая „Ніва", перакажыце тэлебачанню маю просьбу, а я паеду з імі, абвязу кругом па ўсіх вёсках, каб уся краіна глянула на нашых людзей, якія стараюцца таксама стварыць дабрабыт у дзяржаве. Пакажу дабро і зло, якое дзеецца ў нашых вёсках.

**Мікалай Лук'янюк**

**Васіль Сакоўскі**

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

***(працяг; пачатак у 18 н-ры за 1996 год)***

Перад адыходам цёпла і з жалем развітаўся бацька з сям'ёй, перадаў апошнія настаўленні і парады маці і нам, дзецям, на выпадак, калі ён не вернецца дадому, і адправіўся ў Бельск, як на зарэз.

Заходзіць у камендатуру, а там мноства такіх нешчаслівуцаў, як ён. Хто яшчэ чакае са страхам на сваю чаргу, хто навучае суседа як трэба паводзіць сябе на допыце, а хто ўжо крычыць за дзвярыма, бо яго там лупцуюць. А білі тады часта і не шкадуючы.

Чакаў бацька да самага канца, каб як найдаўжэй налюбавацца воляй. Увайшоў апошнім, калі ўжо вечарэла. Прывітаўся, а немец злы, як змей, на яго вачэй не падымае. Глянуў на акно, а там яго гарэлка стаіць, а ў ёй градуснік плавае. Толькі калі назваў сваё прозвішча, немец раптоўна ажывіўся, глянуў на бацьку і запытаў ці на акне яго гарэлка. Так. Немец злагаднеў, на яго твары паявілася прыязная ўсмешка, папрасіў сесці і пачаставаў самагоншчыка сігарэтай, чым вельмі здзівіў бацьку. Ён чакаў усяго найгоршага, напрыклад, што яго адразу „апіздзячат" — як сам пазней казаў — дубінкаю, а потым адправяць у турму і лагер. А тут не толькі што не адлупцавалі, а наадврот: міленька прынялі, папрасілі сесці ды і сігарэтай патракгавалі.

Так страшны чорны сцэнарый, надуманы маім бацькам, пачаў змяняцца мілай і аптымістычнай рэчаіснасцю. Далей не следства, а проста сяброўская гутарка між ахоўнікам сурова акупацыйнага правапарадку і парушальнікам яго пайшла. Немца цікавіла ў асноўным тое, як мой бацька зрабіў такую дасканалую гарэлку, а бацька больш-менш яму расказваў. Канешне, не прызнаваўся, што рабіў самагонку з жыта, а з лубіну. Ці паверыў хітры немец у бацькаву казку, сказаць цяжка.

Выслухаўшы бацьку, немец сказаў, што ён, пры ўсім сваім жаданні, не можа зусім затушаваць гэтую справу, бо інфармацыя пайшла ўжо ў Беласток. Можа аднак мой бацька напісаць просьбу ў Беласток, ён яе падтрымае і там могуць зусім зняць штраф. Бацька сардэчна падзякаваў і сказаў, што ён завініў і хоча кару заплаціць. Тады немец налічыў найніжэйшы з магчымых штраф, а бацька з радасцю заплаціў яго. Міла развітаўшыся бацька вясёлы і шчаслівы вярнуўся дадому...

Трэба сказаць, што некалькігадовае прабыванне сярод палякаў і беларусаў чагосьці навучыла таксама і немцаў. Многія з іх навучыліся, напрыклад, бойка піць гарэлку і любіць выпіўку. Таму і маглі так добра ацаніць вартасць гэтага прадукту. Лепшай сканфіскаванай самагонкі немцы не нішчылі, як патрабавала іх інструкцыя, а забіралі сабе і ласаваліся ёю.

Тут на месцы папівалі нашу самагонку і паціхоньку вазілі яе ў свой фатэрлянд. Думаю, што і частка азіятакрэпача таткавай прадукцыі трапіла туды і песціла там далікатныя арыйскія паднябенні.

Ці не варта было б запатрабаваць цяпер ад нямецкай дзяржавы фінансавай кампенсацыі за сканфіскаваную нам і бясплатна спажытую немцамі ў час акупацыі нашу самагонку? Маглі б заплаціць нам маркамі, доларамі ці нават нашымі залатоўкамі. Гэта ж ганаровыя даўгі і іх рэгуляваць заўсёды трэба. Пілі чужую самагонку, то будзьце добрыя і заплаціць за яе.

***(працяг будзе)***

# Радзіма — Родзіна

**Частка LXVIII**

Досыць доўга публікаваў я той матэрыял, які збіраў на працягу каля трыццаці гадоў свайго жыцця. Зразумела, што збор гэты не меў інтэнсіўнага характару, бо здараліся ў маіх зацікаўленнях досыць доўгія перапынкі. Прагну заўважыць, што не выкарыстаў я ўсіх матэрыялаў, якія астаюцца ў арганічнай сувязі з тэмай Радзіма — Родзіна. Справа ў тым, што маю яшчэ шматлікія прызнанні грамадзян БССР і Рэспублікі Беларусь, з якімі размаўляў я не ў Польшчы, але ў Беларусі. Аднак пакуль што не збіраюся гэтых прызнанняў публікаваць. Быць можа, што зраблю гэта ў будучым.

Думаю, што ўважлівыя чытачы прыкмецілі, што друкуючы матэрыялы стараўся я захаваць поўную бесстароннасць. Стараўся не ўплываць на характар выказванняў маіх размоўцаў нават тады, калі характар выказваных ацэнак і характарыстык ішоў поўнасцю ў разрэз з маімі думкамі, ідэямі і поглядамі. Я стараўся рашуча адрозніваць ад тых публіцыстаў „Нівы", якія нагла накідваюцца на тых людзей, якія маюць іншыя чым яны погляды ды ідэалы. Я лічыў і лічу, што кожны чалавек мае поўнае права мець свае прынцыпы і погляды, і што ніхто не мае права на іх накідвацца і ганьбаваць. На жаль, на старонках „Нівы" вельмі часта прапаведнікі „дэмакратыі" карыстаюцца бальшавіцкімі прыёмамі пагромаў тых, хто мае іншыя чым яны ідэі ды ідэалы. Але няхай будуць і такія. Калі б не было ў жыцці бруду, дык мы не змаглі б уявіць сабе істоты чысціні. Жыццё ніколі не абыдзецца без людзей мізэрных і подлых.

Вяртаючыся да маіх размоўцаў, пачынаючы ад маіх Бацькоў, а канчаючы эмігрантамі і незнаёмым студэнтам прагну сказаць, што ўсім ім вельмі многа заўдзячваю. Думаю, што ўсе яны былі ў кантактах са мной шчырымі і гэта для мяне найважнейшае і якраз з гэтай прычыны буду ім удзячны да канца жыцця.

Колькі ж з тых, хто даверыў мне свае думкі, ідэі і погляды ўжо няма ў жывых. Няма ўжо даўно маіх Бацькоў, няма Піліпа Карэткі, няма Пятра Баршчэўскага, няма Фёдара Баршчэўскага, няма Сцяпана Багнюка, няма Янкі Міхалюка. Аднак засталіся іх думкі і погляды, якія моцна мяне ўзбагацілі.

Калі б мяне хто спытаў, якія з цытаваных мною размоўцаў мне сёння найбліжэйшыя і якія найбольш чужыя, дык я на так пастаўленае пытанне адказаў бы, што найдаражэйшымі мне былі і ёсць погляды маіх Бацькоў. Блізкія таксама погляды Сцяпана Багнюка, Янкі Міхалюка, Антона Адамовіча. Далёкія і чужыя мне погляды майго дваюраднага брата Фёдара Баршчэўскага, які лічыў, што Беларусі непатрэбная незалежнасць, бо Беларусь гэта ў істоце Расія і што толькі супольная, у істоце руская дзяржава можа загарантаваць беларусам добрае і годнае жыццё. Не магу ў ніякім выпадку атаясамлівацца з канцэпцыямі незнаёмага студэнта, які лічыць, што ідэя незалежнасці Беларусі гэта праява архаічнасці і кансерватызму. Аднак яшчэ раз прагну падкрэсліць, што не буду асуджаць гэтых людзей, зыходзячы з прынцыпу, што кожны чалавек мае права на свае ўласныя погляды і прынцыпы. Я, зразумела, таксама маю права наа ўласныя погляды і карыстаючыся нагодай прагну падкрэсліць, што Беларусь і беларусы, як і іншыя народы, змогуць уласціва развівацца толькі ў варунках і атмасферы поўнай незалежнасці і самастойнага дзяржаўнага побыту. Калі б нават прыняць тэзіс аб тым, што ўзнікне адна еўрапейская дзяржава, хаця гэта па-мойму вельмі адлеглая перспектыва, дык пазіцыя і прэстыж у ёй паасобных народаў будзе залежаць ад таго гаспадарчага, культурнага і духоўна-нацыянальнага патэнцыялу, якія ўнясуць у яе гэтыя паасобныя нацыі. Што можа ўнесці Беларусь у жыццё новаеўрапейскай сям'і, калі будзе яна знаходзіцца ў рускім запечку? Думаю, што вельмі мала. І з гэтага вынікае патрэба як найхутчэйшага ўваходу Беларусі на шлях уласных нацыянальных ідэалаў, шлях, які завядзе яе ў еўрапейскую супольнасць вольных народаў. Дарэчы, я не веру ва ўзнікненне такой еўрапейскай дзяржавы, якая б забіла ўсю нацыянальную культурную, моўную і псіхічную спецыфіку тых народаў, якія яе, быць можа, створаць. Прыкладам можа быць Амерыка, у якой паасобныя нацыі моцна культывуюць свае культуры, мовы і традыцыі. Не можа быць па-другому і ў Еўропе.

Зрэшты, застаюся верны ідэі выяўленай у вершы, які я напісаў каля дваццаці гадоў таму назад:

*Мы марай аб Айчыне яшчэ*
*не дапешчаны*
*чакаем яе, нібы прыйсця каханкі.*
*Нам цяжка ў свеце чужым*
*і разбэшчаным*
*ісці пад руку з крывічанкай.*

Лічу, што незалежнасць Беларусі патрэбна як паветра і вада. Без атрыбута незалежнасці Беларусь будзе заўсёды паўпакойніцай. А я прагну Радзімы жывой, здаровай і годнай.

**Алесь Барскі**

# Позірк у мінулае

**6 красавіка**

885 г. — памёр Мяфодзій, славянскі асветнік. Народжаны каля 820 года, пасля вучобы спярша паступіў на візантыйскую ваенную службу, потым атрымаў высокую адміністрацыйную пасаду, быў загадчыкам правінцыі, а пасля прыняў манаскі пострыг. Разам са сваім братам Канстанцінам, які пазней прыняў імя Кірылы, адправіўся ў Маравію прапаведаваць хрысціянскую веру. Пасля сустрэчы з рымскім папам Адрыянам II і пасля смерці брата ў 869 годзе, Мяфодзій вярнуўся ў Панонію, дзе прадаўжаў сваю асветніцкую працу. Яшчэ раз наведаў Рым, дзе атрымаў сан епіскапа Панонскага. Ягоная дзейнасць не падабалася, аднак, нямецкаму духавенству, якое абвінавачвала яго ў ерасі з увагі на тое, што Мяфодзій навучаў паводле прынятага ў Візантыі нікейскага Сімвала веры з 325 г., у якім адсутнічала, дададзенае ў 589 г. на саборы ў Таледа, *filioque* („і ад сына"). За гэта нямецкія епіскапы заключылі Мяфодзія ў баварскую турму. Аднак дзейнасць братоў, іхныя эрудыцыя і характар зрабілі вялікае ўражанне ў Рыме і яны карысталіся там вялікай пашанай, нягледзячы на багаслоўскія разыходжанні. Наследнік Адрыяна II, папа Іаан VIII загадаў у 873 г. вызваліць Мяфодзія з астрога, у якім правёў ён два з паловай гады, і назначыў яго архіепіскапам Мараўскім. Да таго часу, аднак, мараўскі князь Расціслаў, прыхільнік славянскага вучэння, быў звергнуты ягоным пляменнікам Святаполкам, які быў пад моцным уплывам нямецкага духавенства. Мяфодзій разам са сваімі вучнямі вёў упорную барацьбу за распаўсюджванне славянскай багаслужбы і пісьмовасці. Пасля ягонай смерці нямецкае духавенства дабілася ў новага папы Стэфана V забароны славянскай мовы ў Касцёле. Князь Святаполк выгнаў вучняў Мяфодзія са сваіх уладанняў; тады налічвалася там каля двухсот славянскіх свяшчэннікаў. Вярнуліся яны ў Візантыю і Балгарыю, дзе князь Барыс прыняў у 865 г. хрысціянства. Спачатку, у 866—870 гг., у Балгарыі дзейнічала лацінскае духавенства, а пасля грэчаскае, аднак з увагі на мову іх дзейнасць не сустрэла прызнання. Асветнікаў з Маравіі князь Барыс пасяліў у Праслаўлі, які стаў цэнтрам балгарскай кніжнасці.

**8 красавіка**

1336 г. — нар. Цімур, азіяцкі заваёўнік. У 1361 г. Цімур, які ўжо ў той час быў правадыром вялікай дружыны ваяўнікоў са свайго племені, што асела ў Маверанахры (сённяшні Узбекістан), паступіў на службу Туглуку, хану Манголістана, у які ўваходзілі землі між Цянь-Шанем, Алтаем і возерам Балхаш. Хутка, аднак, Цімур выступіў супраць Туглука, аднак пацярпеў паражэнне. Служыў у розных ханаў і прымаў удзел у іх авантурах. У адным з баёў быў цяжка ранены ў правую нагу і атрымаў клічку „Цімур Ланг", што азначала „Цімур Кульгавы", якая ў Еўропе прынялася ў форме „Тамерлан". У 1366 г. Цімур разам з эмірам Хусейнам вераломна захапіў Самарканд, сталіцу Маверанахра, а ў 1370 г. забіў свайго супольніка і стаў адзіным уладаром. У 1372 г. Цімур захапіў Харэзм, у 1395 г. разбіў Залатую Арду, пазней захапіў Іран, Індыю і Месапатамію. У 1387 г. Цімур прыказаў абезгаловіць 70 тыс. жыхароў Ісфахана, а з іх галоў збудаваць піраміду. У 1398 г. прыказаў забіць сто тысяч індыйскіх палонных, якіх не хацелася яму весці ў Маверанахр. У 1401 г. у адзін дзень вякі Цімура забілі 90 тысяч жыхароў Багдада. Памёр у 1405 г., рыхтуючыся да захопу Кітая.

**(Ш)**

# *Парнасік*

## Красавік

У красавіку пераплёт:
Трохі зімы, трохі лета...
У мінулым годзе пераканаліся,
Усе недаверкі паверылі.
Першы дзень зімовы быў,
Снег засыпаў дарогі —
Ледзь прапхнулі снежнымі плугамі.
Пасля пацяплела, снег раставаў.
У Вялікія пятніцу і суботу ды
Велікодную нядзелю снег зноў
Пакрыў зямлю пуховай пярынай.
Хоць ты яйкі качай па снезе!
Пасля зноў пацяплела:
Снег прапаў,
Стала летняе надвор'е.
Пасля ідзе травень...
Цікава толькі, ці
Спаўняецца прымаўка
„Першы травень — валам дай,
Сам на печ уцякай"?

**Аўрора**

## Прафесар-самавук

Ну, які з цябе прафесар,
Лапату табе на плечы.
Не інстытуты закладаці
А ў горадзе смецце падмятаці.
Каб Японію стварыці,
Два векі трэба пражыці.
Ты не змог таго зрабіці.
Знаюць бацькі, знаюць дзеці,
Што тут многа гаварыці,
Кепска дзеецца на свеце,
Цяжка першага дажыці.
За кватэру няма чым плаціці,
Дзетак як дагадаваці
Ды адукацыю ім даці.
За работу дзе ўчапіцца,
Каб хоць крышачку разжыцца.
Табе самаход, ахрана,
Палац Масціцкага пана,
Табе зялёныя паперкі.
Вы здыхайце, недаверкі.
У касцёл ты ідзеш
Толькі не маліцціся,
А па імшы са святарамі
Каб пахмяліцціся.

**Мікалай Лук'янюк**

## Сынок Вова

Быў сынок Вова,
Пра яго тут мова.
Заўсёды быў сыты,
Ніколі не біты.

Быў „адзінак",
Паводзіў сябе як дзівак.
Бабулі і дзядулі
Соваў ён дулі.

Вучыўся не вельмі,
З вынікам дрэнным.
Яго бацька ўмеў гладка гаварыць
І мог лёгка жыць.

Скора стаў шэфам
І пакаціўся рэхам,
Што ён здольны арганізатар
І правакатар.

Усе яму „падчыняліся"
І ўсюды кланяліся.
Баяліся яго як агня
Кожнага дня.

Настаўнікі Вову „любілі",
Амаль на руках яго насілі.
У ліцэі ішло тугавата,
Бо стаў правальваццa тата.

Пасля Вова ажаніўся
І, здавалася, з лёсам зміры́ўся.
Разумную жонку ўхапіў,
Але як з ёю жыў?

Пачаў піць гарэлку,
Як кажуць — без меркі.
Жонку пачаў абкрадаць —
Так сябе праслаўляць...

Пачаў яе ганьбіць, лупіць
І як з такім жыць!?
А мелі ж дзіця, пацеху;
Ды не чуваць было смеху.

Жонка цярпела да пары,
А калі пацяплела на двары,
Адчыніла дзверы і крыкнула „Вон!"
Такі быў распусты плён.

**Мікалай Панфілюк**

# Крыжаванка




**Гарызантальна:** 2. зялёная невысокая раслліннасць, 4. равеснік, 6. мінеральная маса з гліны і гіпсу для керамічных вырабаў, 7. рака ў Беларусі, 9. арганізацыя Пятра Крука, 11. узорныя творы літаратуры і мастацтва, 12. сукупнасць слоў мовы, 13. адно з імён Напалеона III, 15. сталіца Камеруна, 17. прамоўца, 18. рэшткі разваленай пабудовы, 19. трапічнае пладовае дрэва.

**Вертыкальна:** 1. аналіз, ацэнка, 2. афрыканская сталіца, 3. прыток Лены, 4. мужчынскае імя, 5. індыйская кніга пра каханне, 6. аддзяленне, філіял, 8. балота з вытокамі Нарвы, 9. адзінка вымярэння напр. сілы землетрасення, 10. арабскае мужчынскае імя, 14. суседка Беларусі, 16. фермент, 17. рэшткі збудавання. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 7:**

**Гарызантальна:** Брамс, Дэкамерон, Басаў, кацёл, лад, Антарыо, антракт, тур, Арыка, Джойс, мотаспорт, невад.

**Вертыкальна:** падмена, Быкаў, сорак, дэспатызм, нацюрморт, банка, Лукас, Лот, дар, убоства, Антон, дрозд.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.



*Качалы.*

Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне, што абазначае мой сон? Дзея ў ім адбываецца на рабоце. Уваходжу я ў будынак, дзе працую. Там не прыбрана, балаган. Я здзівілася. У сапраўднасці ж, калі мы прыходзім на працу, у нас парадак, чыста. Жанчына, якая ў нас прыбірае, раненька прыходзіць, ды дбайна выконвае сваю працу. Але тут жа даведваюся, што яна не прыйшла. Чаму, не ведаем і невядома, калі прыйдзе. Мы з сяброўкай сказалі, што самі прыбярэм. Ужо нават узяліся за работу, але ўвайшла жанчына-пенсіянерка, якая калісьці ў нас прыбірала, і кажа, што гэта яна будзе ў нас працаваць.

У тую ж ноч прысніўся мне і другі сон. Я ў лесе. Іду дарогаю, адна. Чую, ззаду размаўляюць мужчыны. Мне стала страшна, я падумала, што трэба ўцякаць. Я бягу, а яны бягуць за мною. І я ўжо ведаю, што даганяць. Ужо адзін схапіў мяне за плечы. Я вырываюся, ну і ўдалося мне ад іх уцячы.

**Вера**

Вера! Першы твой сон прадвяшчае перамену дома, кватэры ці працы (балаган). Аднак жа, паколькі балаган гэты быў у цябе на працы, дык можна меркаваць, што твая фірма зменіць сваю сядзібу.

Што датычыцца другога сну, дык ён прадвяшчае табе нейкае небяспечнае падарожжа. Маю тут на думцы не толькі паездку. Можа гэта быць небяспечная справа, якую ты пачала, — як кажуць, хаджэнне па канаце. Ёсць аднак надзея, што ўсё неяк абыдзецца, скончыцца добра для цябе, бо ўсё-такі ты ад гэтых мужчын уцякла. Уцякаць ад некага — небяспечнае падарожжа.

**Астрон**



**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранові́ч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1997 r. upływa 5 marca 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Пародыі

## За сном і спаць няма калі

*Сабака заснуў на парозе,*
*гаспадар дрэмле ў фатэлі,*
*нікому нічога не трэба...*

***Мікола Ваўранюк***

Як спіць сабака — сплю і я,
Храпу трамбонам у фатэлі.
Я спаць, як жоначку, люблю,
І ў панядзелак, і ў нядзелю.
Сабака спіць, і кот, і куры,
Парсюк заснуў у хлеўчуку,
Сусед не спіць, ён смачна курыць,
А я адзін сплю на баку.
Сплю днём. І ноччу не прачнуся,
Мне надакучыў гэты сон.
На спіну ціха павярнуся,
І захрапу, нібы трамбон.
Сабака спіць — брахаць не хоча,
А я чым горшы за яго?
Каб я расплюшчыў, здэцца, вочы:
Пад бок штурхнуў яго нагой...
Ды спіць сабака, сплю і я,
Нам нічагусенькі не трэба.
Я спаць, як жоначку, люблю,
А жонка любіць масла з хлебам.

**Сяргей Чыгрын**

**З сучаснага жыцця**

### Нахабнік

Пад Маркполем мне сустрэўся зноўку
Знаёмы з твару, быццам нешчаслівы.
Просіць: — Далажыце залатоўку.
Пытаю: — Да паўлітра, ці да піва?

### Ёсць выбар

Ходзіць ад кватэры да кватэры
Здаравяка, малады мужчына,
І цярпліва стукае у дзверы,
Покуль нехта яму не адчыніць.

А калі ўжо стане на парозе
Кажа, што не мае ён работы,
І што замярзае на марозе.
Просіць супу або адзін злоты.

**Віктар Швед**

# Сентэнцыі Надзеі Руско

* Не прыгалубіш, калі не любіш.

* Стары не глядзіць у люстра, бо сябе і так у ім не ўбачыць.

* Не той колас цэнны, што стаіць, а той, што сагнуты.

* Брыдкія словы знішчаць найвялікшую прыгажосць.

# Ніўка



# Заганны тавар

У адной краме ў Беластоку я вельмі люблю купляць. Там і танней, і ўсё свежае, і касіры хуткія, і „назіральнікі" ненахабныя, быццам іх і няма. Купіш там, як кажуць „mydło i powidło", і хваляць гэтую фірменую краму ўсе, хто там купляе. Рэкламы ў газетах не трэба, рэфэрэнцыі перадаюцца з вуха ў вуха.

Але, барані Бог, калі вы на іхнім мясе паломіце зуб!

Не, мяса ў іх добрае — свежанькае, дзе трэба — без костак, дзе трэба — з косткамі. І, галоўнае, таннейшае чым ва ўсім горадзе, і ў кавалках — кожнаму па кішэні. А паламаць зуб можаце на чым хочаце, хоць бы і на цвіку ці ўласнай пратэзе. Бо немагчыма на добрым мясе паламаць што-кольвек.

Я якраз стаяла і выбірала нейкую драбязу, ці не буйныя і смачныя сланечнікавыя зярняты (там былі яны найлепшыя ў Беластоку), калі каля мяне стаў худзенькі пан, збянтэжаны і са збалелай мінай. Якраз паклікалі да яго кіраўнічку крамы. Пакуль ён адчыніў рот, яна скорагаворкай засакатала:

— Вы не маглі паламаць зуб на нашым мясе. Наша мяса добрае. Дакажыце, што вы паламалі зуб на нашым мясе.

Чалавек выняў паперку ад лекара.

— Ну, але вы дакажыце, што паламалі зуб на **нашым** мясе.

Чалавек дастаў рахунак з касы.

— Вы не маглі паламаць зуб на „ялавічыне без косці"!

— Я ж купляў у вас, вось ваш тавар, — кліент падаў пакунак.

— Гэта не наш тавар. Вы яго купілі, і ён цяпер **ваш** тавар.

Чалавек абліўся краплістым потам. Я стаяла з разяўленым ротам і слухала. Хацелася кінуцца няшчаснаму на ратунак, але ці тут можна ў нечым памагчы?!

— Як гэта — не ваш тавар? У вас купленыя, я за яго вам заплаціў, вось рахунак, а вось пасведчанне, што я паламаў зуб, ад лекара...

— Гэта пасведчанне ад прыватнага дантыста. А мяса — ваш тавар. Вы яго купілі. Што вы з ім зрабілі — не наша справа.

— Але гэта на вашым мясе я паламаў зуб! — мала не заплакаў чалавек і зноў працягнуў пакуначак са злавеснай „ялавічынай без косці".

— Адчапіцеся ад мяне са сваім дурным мясам. Гэта, кажу я вам, не наш тавар, а ўжо ваш! — адвярнулася спіною гандлярка. — Больш з вамі дыскутаваць і не думаю!

Тут кліент спахапіўся, і рынуў за ёю ў прыадчыненыя дзверы.

Я хвіліну стаяла ля ўваходу ў запаветныя пакоі кіраўніцтва фірменнае крамы, але паколькі адтуль чуліся толькі вядомыя фразы, павярнула ў бок касы, каб заплаціць за ўжо **мой** тавар.

**(лук)**

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

У вечаровай школе:

— Каты належаць да млекакормячых, папугаі да птушак. Да чаго належаць селядцы?

— Да закусак.

* * *

Да дырэктара цырка з'яўляецца беспрацоўны:

— Чуў, што патрабуеце ўтаймавальніка ільвоў...

— Спазніліся вы: сёння я ўжо прыняў аднаго на працу. Але прыйдзіце заўтра, можа пасада будзе свабоднай...

* * *

У судзе:

— Абвінавачаны, вы цяжка пабілі нявіннага чалавека; чым апраўдваеце свой учынак?

— Ці магу крыху прызадумацца?

— Згода! Два гады хопіць?

* * *

Загадчык фірмы кліча працаўніка і лае яго, што выдаў замнога грошай на рэкламу фірменных прадуктаў:

— Я асабіста не веру ў сілу рэкламы! — заключае.

— Не маеце рацыі, — бароніцца працаўнік, — магу вам гэта даказаць.

— Прабуйце.

— Скажыце, што робіць курыца, калі знясе яечка.

— Голасна кудахтае.

— А гуска, калі знясе яечка, крычыць?

— Хіба не.

— А качка?

— Хіба таксама не...

— Вось бачыце, што ўсе і купляюць курыныя яйкі! І як жа можна не верыць у сілу рэкламы?

* * *

— Дзедка, пазыч мне дзесяць злотаў, — просіць унучак. — Аддам табе з пенсіі.

— Што ты выдумваеш? — здзіўляецца дзедка. — З якое пенсіі: ты ж яшчэ не працуеш!

— З бабулінае.

* * *

Два шатландцы сустракаюцца на аэрадроме:

— Куды выбіраешся?

— У паслявяшлюбнае падарожжа.

— Сам?

— Так; рашылі мы з жонкай жыць ашчадна.

# Сардэчныя ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Хаця я не была замужняя, дык вельмі ўцешылася, калі ўсвядоміла, што зацяжарыла. Мне было дваццаць восем гадоў і быў ужо апошні званок, каб нарадзіць першае дзіця. Мушу табе прызнацца, што да гэтага моманту я сустракалася не з адным мужчынам, але ніколі не ўдалося зацяжарыць. Калі я зразумела, што, відаць, ніколі не стану маці, перастала нават прымяняць нейкія сродкі, каб не зацяжарыць.

І вось сталася. Я была шчаслівая. Нават у галаву мне не прыйшло, што хлопец, з якім я хадзіла і якога кахала, не ажэніцца са мною. А ён раптам уцёк. І за ўсю маю цяжарнасць пазваніў мне ўсяго адзін раз, ды і то, здаецца, быў тады выпіўшы.

Ён мне прама не сказаў, каб неяк пазбылася дзіцяці, але для мяне дастаткова было пачуць, што на дзяцей мы яшчэ маем час, што ў яго цяпер іншыя планы. Відаць, ён ува мне не бачыў сваёй будучай жонкі. Нягледзячы на ўсё, я вырашыла дзіця нарадзіць. Гэта ж быў мой шанс!

Дзіця нарадзіла я лёгка. Была шчаслівая і называла яго маім зайчыкам. Цэламу свету хацела я пахваліцца сваім шчасцем. Толькі бацька дзіцём не цешыўся. Наведаў нас, калі ўжо ўсе родзічы і знаёмыя пабывалі ў адведках.

І так пасля цэлага шуму я станавілася ўсё больш самотнай. Калі я зацяжарыла, дык думала, што зменіцца на лепшае ўсё маё жыццё. Я буду не адна і буду мець перад сабой нейкую мэту. А выйшла інакш.

Хлопец, на якога я так разлічвала і без якога жыцця сабе не ўяўляла, жаніцца не збіраўся. Калі такія думкі ў яго часамі паяўляліся, дык толькі, каб адцягнуць плату аліментаў. Я ўрэшце не вытрымала і на аліменты падала. Тады ён мне бессаромна сказаў: „Ну, дык цяпер няма аб чым гаварыць!" Я і перастала памалу пра яго думаць. А ён да нас не спяшаўся.

Я верыла, што маю спагадлівую сям'ю, якая мяне зразумее і дапаможа, калі будзе трэба. А яны ўсе наадварот: калі зразумелі, што застануся дзеўкай з дзіцём і ён са мной не ажэніцца, зусім адвярнуліся ад мяне, Нават калі маці падкіне якісьці кусок мяса ці здобную булачку дзіцяці, дык мушу заплаціць, бо бацька з яе кожны грош сычыць. Загадаў не дапамагаць мне! Як сабе паслала, кажа ён пра мяне, так і выспіцца...

А што ўжо гаварыць пра знаёмых... Спачатку, калі яшчэ была надзея, што мо выйду замуж, усе былі нейкія мілейшыя, прыносілі дзіцяці то цацкі, то смакоцці, то нешта з вопраткі. А цяпер... Цяпер дык нават і запрашаць мяне да сябе перасталі, матывуючы гэта тым, што „ў цябе дзіця, пэўна, ты не маеш часу"... А чаму ж я не маю часу? Дзіця дагледае суседка, калі я працую, дык можа ж папільнаваць і вечарам, калі я кудысьці выходжу.

Справа ў тым, дарагое Сэрцайка, што ў нас яшчэ вёска. Так, так, вёска ў найгоршым выданні. Гэта ім дзіця мае перашкаджае, ды мой статус самотнай, адзінокай маці. Можна гуляць з кім хочаш, прыходзіць на „распранутыя" прыватнкі, але нельга свой „грэх" паказаць усяму свету.

Я, напрыклад, лічу, што маё дзіця — гэта найлепшае з усяго таго, што я дасягнула ў жыцці. А яны паціху падсмейваюцца з мяне: якая, маўляў, дурная, навошта ёй гэта было, калі жыла дагэтуль спакойна...

Людзі! А як жа гэта прымаюць у Еўропе?! Вунь у Швецыі ўжо хутка больш дзяцей будзе, народжаных не ад шлюбных бацькоў, чым ад шлюбных, і ніхто не лічыць гэта праблемай, сарамлівай справай. А ў нас? У нас няхай будзе горкі п'яніца, няхай лупцуе жонку ад раніцы да вечара, няхай грошай не дае, па іншых бабах ходзіць, — але няхай гэты муж будзе. Інакш, баба — нуль. Даруй, што я выказваюся шчыра, але якая ж гэта Еўропа?..

**Барбара**

Бася, даражэнькая, зразумей, мы ж толькі яшчэ ідзем у тую Еўропу!

**Сэрцайка**